



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

16 снежня 2016 года №51 (1129)


**Выбірай "Асобу года-2016"** старонка 2





На фота – журналіст "РГ" **Наталля Тур** падчас фры-маркета, арганізаванага ў гонар 21-годдзя газеты.

Фота з архіва "РГ".

# У Маладзечне быць "Праспекту "РГ"

**МАЛАДЗЕЧНА**

На конкурс крэатыўных ідэй "Кірмаш праектаў" для Маладзечна, які арганізавалі кампанія "Будзьма беларусамі!" і Цэнтр даследавання грамадскага кіравання "СІМПА" было даслана 14 валанцёрскіх праектаў.

Сярод іх былі амаль цалкам гатовыя да рэалізацыі і тыя, што пакуль існуюць выключна як ідэя. Эксперты адабралі шэсць найбольш цікавых, якім кампанія "Будзьма беларусамі!" і "СІМПА" акажуць магчымую дапамогу: ад кансультацый па дапрацоўцы да рэалізацыі. Меркаванне экспертаў з Мінска не разышлося з меркаваннем саміх маладзечанцаў: гэтыя ж праекты набралі найбольшую колькасць народных галасоў падчас самога "Кірмашу праектаў".

Спіс пераможцаў:

1. **Андрэй Буслаўскі**, праект "Здаровы горад!" – ідэя стварэння велаінфраструктуры ў Маладзечне.
2. **Уладзімір Садоўскі**. "Папулярызацыя міжваеннай архітэктуры Маладзечна" – раскрыццё малавядомых старонак гісторыі Маладзечна на прыкладзе міжваеннай архітэктуры горада.
3. **Алеся Каролік**. "Прыхаванае вякамі" – відэапраект пра дзейнасць знакамітых асоб Маладзечна.
4. **Наталля Тур**. "Праспект "РГ" – новы фармат культурнага адпачынку і знаёмства з мясцовымі навінамі", праект "Рэгіянальнай газеты" Маладзечна.
5. **Воля Трубач**. "Танцавальны тур па грамадскіх месцах Маладзечна" – арганізацыя танцавальных вечарын у грамадскіх месцах.
6. **Павал Хаванскі**. "Горад майстроў" – серыя майстар-класаў па народных рамёствах для ўсіх зацікаўленых.

З аўтарамі праектаў-пераможцаў арганізатары "Кірмашу праектаў" звяжуцца ў найбліжэйшы час для абмеркавання далейшых дзеянняў.

**Паводле "Будзьма беларусамі!".**



## Памёр беларускамоўны матэматык Якаў Радына

ВАЛОЖЫН

**У Валожыне пахавалі Якава Радыну – беларускамоўнага матэматыка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яму было 70 гадоў.**

Пакутаваў ён на рак прастаты.

Ён быў родам з вёскі Брылькі Валожынскага раёна.

У 1969 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і пачаў там працаваць. У 1972 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю "Да тэорыі лінейных ураўненняў у тапалагічных вектарных прасторах".

У 1987 годзе – доктарскую дысертацыю "Экспаненцыяльныя вектары і дыферэнцыяльныя ўраўненні". З 1975 года – загадчык кафедры функцыянальнага аналізу БДУ.

Радына распрацаваў якасную тэорыю лінейных дыферэнцыяльных ураўненняў з рэгулярнымі аператарамі ў лакальна-выпуклых прасторах. Увёў паняцце вектара экспаненцыяльнага тыпу і на яго аснове пабудаваў функцыянальны падлік, які ўжываецца пры даследаванні дыферэнцыяльных і дыферэнцыяльна-аператарных ураўненняў. Пабудаваў разам з Анатолем Антаневічам тэорыю нелінейных абагульненых функцый.

**Быў навуковым рэдактарам першага ў Беларусі "Руска-беларускага матэматычнага слоўніка" (1993), суаўтарам і навуковым кансультантам першай у Беларусі "Матэматычнай энцыклапедыі" (2001), аўтарам беларуска-польскага і польска-беларускага матэматычных слоўнікаў.**

Аўтар каля 150 навуковых прац, у тым ліку дзесяці манаграфій, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў.

На пачатку 1990-х яго прапаноўвалі на пасаду міністра адукацыі, але кандыдатуру не падтрымаў Вячаслаў Кебіч.

Сын Якава Радыны таксама выкладае матэматыку ў БДУ па-беларуску.

Яго ўнучка вучыцца на "выдатна" ў беларускамоўным ліцэі імя Якуба Коласа.

Паводле "Нашай нівы"

## У конкурсе скульптур маці ўдзельнічаюць творцы з Беларусі, Расіі і Латвіі

ВІЛЕЙКА

1 снежня ў аддзеле архітэктуры Вілейскага райвыканкама закончылі прыём заявак на ўдзел у конкурсе скульптурных кампазіцый "Маці з дзецьмі".

Заяўкі даслалі дзесяць скульптараў. У аддзеле архітэктуры расказалі, што, згодна з дасланымі анатацыямі, сярод удзельнікаў ёсць два скульптары з Латвіі, адзін з Расіі, астатнія – з Беларусі.

Да 21 снежня ўдзельнікі павінны прадставіць эскізы будучых скульптурных кампазіцый. А 23 снежня Мінскі абласны мастацка-экспертны савет вызначыць пераможцу і аб'явіць лепшую скульптурную кампазіцыю.

Скульптура пераможцы, адлітая з бронзы, упрыгожыць вілейскі парк.

Аксана ЯРАШОНАК.




# Хто стане Асобай года-2016, выбіраць вам

**Хто сёлета атрымае гэты тытул "Рэгіянальнай газеты", залежыць ад чытачоў.**

Мы прапануем спіс кандыдатаў, якія адзначыліся ў публікацыях "Рэгіянальнай газеты". Прагаласаваць за свайго абранніка можна на сайце rh.by. Галасаванне будзе доўжыцца ад 16 да 26 снежня.

### Сярод каго мы выбіраем Асобу года

АСТРАВЕЦ

**Сям'я Сінкевічаў** – сям'я, якая выхоўвае дзесяць дзяцей у першым на Астравеччыне доме сямейнага тыпу.

**Адам Мальдзіс** – нязменны кандыдат на тытул Асобы года па версіі нашай газеты. Гэта знакаміты чалавек, які і ў 84 гады не стамляецца ад актыўнай жыццёвай пазіцыі. Сёлета ён звярнуў увагу грамадскасці на пагрозу спілоўвання ў Астраўцы старых дубоў.

АШМЯНЫ

Паўэрліфтары з Ашмянаў не спыняюцца здзіўляць поспехамі. **Крысціна Шлыковіч, Аліна Чашчына, Альберт Станкевіч** сёлета паспяхова выступілі на чэмпіянаце Еўропы. А Аліна нават устанавіла рэкорд.

ВАЛОЖЫН

**Юлія Бондар і Аляксей Піскун** пераехалі з Мінска ў Валожынскі раён. Яны паказалі прыклад маладых людзей, якія не імкнуцца ў сталіцу, а шукаюць шчасце ў вёсцы, з якой моладзь уцякае.

**Ганна Ражанцова** – менеджар праекта "Валожын без бар'ераў", у межах якога мільён еўра будзе асвоены для ўладкавання інфраструктуры для людзей з інваліднасцю.

ВІЛЕЙКА

**Уладзімір Цанунін** – паэт, аўтар-выканаўца, які актыўна папулярызуе беларускую паэзію.

**Эдуард Мацюшонак** – выступіў з прапановай арганізаваць клуб мастакоў для творцаў, якія жывуць у рэгіёне.

**Вольга Шляпо** – рэалізавала праект, дзякуючы якому ў Вілейцы з'явіўся скейтпарк.

**Надзея і Аляксей Шарманавы** – зладзілі незвычайнае вянчанне з вянком з палявых кветак і ў вышыванках.

**Міхаіл Кулеш** – адкрыў сваю першую фотавыставу.

МАЛАДЗЕЧНА

**Лідзія Князева** – атрымала званне ганаровага грамадзяніна Маладзечна, нязменны кіраўнік клуба "Пошук", які працуе на базе сярэдняй школы №5. Яе намаганнямі вернутыя імёны шматлікіх вязняў канцлагера "Шталаг 342".

**Васіль Лябецкі** – 66-гадовы аматар бегу, які перамог у конкурсе "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя".

**Воля Трубач** – аўтар краязнаўча-публіцыстычных артыкулаў, арганізатар майстар-класаў па беларускіх танцах.

**Надзея Бука** – мастачка з Маладзечна дэбютавала ў афармленні вокладкі кнігі **Мікіты Найдзёнава** "Развітанцы".

**Таццяна Атрошанка** арганізавала аўтарскі творчы вечар.

**Арганізатары раці "Зэла. Без тармазоў"** – з дапамогай раці сёлета знайшлі дзіця, якое збегла з дому.

**Вячаслаў Курбака** зрабіў беларускую агучку для хакейнага сімулятара НХЛ 09.

**Юлія Мароз** зладзіла імпрэзы "Жывая бібліятэка", дзе замест кніг былі людзі.

**Мікола Аўчыннікаў** арганізаваў выставу і юбілейную вечарыну.

**Настасся Сарока** – другая віцэ-міс конкурсу "Міс Беларусь-2016".

**Марына Валасковіч** – арганізавала маладзевы фестываль "Час жыць".

**Уладзімір Садоўскі** – малады пісьменнік выдаў першы беларускі зомбі-хорар пра Міхала Клеафаса Агінскага.

**Алена Белавус** – арганізавала конны паход для жанчын на палачанскіх конях.

**Марыя Бельская** – маці траіх дзяцей выдала кнігу "Таямніцы".

**Данік Савеня** – невідушчы хлопчык, які надзвычай таленавіта спявае. Сёлета выйшаў дакументальны фільм пра яго, а таксама фотаэкспазіцыя.

МЯДЗЕЛ

**Аляксандр Быкаў** – марафонец і паэт з Мядзела.

**Міхаіл Плавінскі** – краязнаўца, які займаецца раскопкамі на Мядзельшчыне.

СМАРГОНЬ

**Уладзімір Някляеў** – паэт выдаў зборнік "Толькі вершы" і адзначыў 70-годдзе.

**Вольга Гайсманава** – курсавы афіцэр першага курса для будучых жанчын-афіцэраў.

### Што чакае пераможцу

Той, хто атрымае ганаровы тытул, упрыгожыць вокладку аднаго з першых нумароў "РГ" 2017 года, яго запросяць на ўрачыстую сустрэчу з супрацоўнікамі рэдакцыі, дзе атрымае каштоўны прыз.

Асобай года-2015 стаў вілейскі краязнаўца **Дзяніс Канецкі**, які набраў 32% галасоў.

Асобай года-2014 стаў вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіця. Ён двойчы ныраў за хлопчыкам, пакуль аднагодкі стаялі і смяяліся.

Аддзел інфармацыі.




Такія ліхтары ў Вілейцы памянялі на плошчы на святлодыёдныя яшчэ ў 2015 годзе.

# Сёлета ў Вілейцы стала больш святлодыёдных ліхтароў

ВІЛЕЙКА

**Сёлета на шматлікіх вуліцах Вілейкі ўсталявалі святлодыёдныя ліхтары.**

Дзе знайшлі сродкі на іх? Пра гэта расказала былы галоўны архітэктар Вілейскага раёна **Галіна Кажарновіч.**

Па выніках 2015 года Вілейка перамагла па трэцяй катэгорыі ў рэспубліканскім аглядзе добраўпарадкавання населеных пунктаў.

За гэта горад атрымаў пераходны вымпел, пасведчанне і грашовую прэмію ў дзве тысячы базавых велічынь.

Па словах Галіны Кажарновіч, амаль усе грошы, атрыманыя на добраўпарадкаванне горада, патрацілі на святлодыёдныя ліхтары.

Спецыяльнай службы, якая б займалася асвятленнем горада, у Вілейцы няма. Традыцыйна работы такога накірунку выконвае ЖКГ.

Як паведамілі ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, супрацоўнікі гэтай арганізацыі і ліхтарамі займаюцца, і святочнай ілюмінацыяй.

А ў некаторых гарадах рэгіёна, напрыклад, у Маладзечне, за вулічнае асвятленне адказваюць супрацоўнікі арганізацыі "Гарсвятло".

У ЖКГ расказалі, што перад тым, як усталяваць святлодыёдныя ліхтары, трэба ўлічыць шмат умоў. Напрыклад, кліматычныя асаблівасці тэрыторыі, негатыўнае ўздзеянне навакольнага асяроддзя. Улічваюць таксама і тое, наколькі інтэнсіўны аўтамабільны рух на тым ці іншым участку дарогі.

Па словах спецыялістаў, важна, каб у такіх ліхтароў быў моцны светлавы струмень. Не менш істотна і тое, каб яны працавалі на працягу доўгага тэрміну. Бо, як кажуць спецыялісты, замена такіх свяцільняў – даволі дарагая і нялёгкая працэдура.

Вялікі плюс новых крыніц святла – больш нізкае спажыванне энергіі і больш доўгі тэрмін работы.

Аднак ліхтары, устаноўленыя сёлета, – гэта не першы досвед выкарыстання светлодыёдных свяцільняў у Вілейцы.

Напрыклад, як расказалі ў аддзеле архітэктуры Вілейскага райвыканкама, на цэнтральнай плошчы і па дарозе да Макаўя яны паспяхова гараць ужо больш за год. Частку натрыевых лямпачак на святлодыёдныя замянілі перад абласнымі дажынкамі ў 2015 годзе.

У гэтым накірунку мы не пачалі, а працягнулі працу, – кажуць у аддзеле архітэктуры.

У іншых гарадах рэгіёна такія ліхтары ёсць таксама. У ЖКГ Астраўца расказалі, што ўстанаўліваць іх пачалі два гады таму. На сённяшні дзень у горадзе энергазберагальных ліхтароў больш за 50, а святлодыёдны адзін.

**Даведка "РГ":**
Святлодыёднае асвятленне – адзін з перспектыўных накірункаў тэхналогій штучнага асвятлення, заснаваны на выкарыстанні святлодыёдаў у якасці крыніцы святла. Святлодыёд – паўправадніковы прыбор, які стварае аптычнае выпраменьванне пры прапусканні праз яго электрычнага току ў прамым кірунку.

Аксана ЯРАШОНАК.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.12 | 15.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9789 | **1,9548** |
| Еўра | 2,1220 | **2,0817** |
| Злоты, 10 | 4,7826 | **4,6775** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0954 | **3,2159** |
| Грыўня, 100 | 7,6038 | **7,4200** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 7.12 і 14.12** | | |
| Еўра | 2.0900/2.1250 | **2.0600 /2.0850** |
| Долар ЗША | 1.9600/1.9800 | **1.9450 /1.9600** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 7.12 | | 14.12 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 71 300 | 7,13 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 32 600 | 3,26 | 32 600 | 3,26 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 145 000 | 14,50 | 145 000 | 14,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 22 000 | 2,20 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 18 500 | 1,85 | 18 500 | 1,85 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 64 900 | 6,49 | 64 900 | 6,49 |
| Капуста, 1 кг | 2 900 | 0,29 | 2 900 | 0,29 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Капуста пекінская, 1 кг | | | 12 900 | 1,29 |
| Лімоны, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 29,5 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | 2,70 | 22 500 | 2,25 |
| Гранаты, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 34 500 | 3,45 |
| Ківі, 1 кг | 28 500 | 2,85 | 28 500 | 2,85 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 26 900 | 2,69 | 27 900 | 2,79 |
| Агуркі, 1 кг | 34 900 | 3,49 | 34 500 | 3,45 |
| Перац, 1 кг | 44 900 | 4,49 | 44 900 | 4,49 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 24 900 | 2,49 |
| Вінаград, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Бананы, 1 кг | 19 500 | 1,95 | 18 500 | 1,85 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 900 | 1,49 | 14 000 | 1,40 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | 2,49 | 24 900 | 2,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 3 500 | 0,35 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 30 000 | 3,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## У Вілейцы прызначылі галоўнага архітэктара

ВІЛЕЙКА

Ад 13 снежня новым архітэктарам Вілейскага раёна стаў **Дзмітры Гарланаў.**

Дзмітры нарадзіўся ў 1991 годзе ў Бабруйску. У Вілейку прыехаў пасля заканчэння Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта.

Да гэтага працаваў у аддзеле архітэктуры Вілейскага райвыканкама галоўным спецыялістам. Ён адзін з распрацоўшчыкаў пляцоўкі ў вілейскім скейт-парку і адзін з пераможцаў конкурсу велапаркоўак, які праводзіўся ў Вілейцы ў 2015 годзе.

Былы галоўны архітэктар Галіна Кажарновіч ад 12 снежня сышла на пенсію.

Пра гэта расказалі ў аддзеле архітэктуры Вілейскага райвыканкама.

Аксана ЯРАШОНАК.



## Рыбак з Ашмянаў патануў у Лідскім раёне

**АШМЯНЫ**

Першае паведамленне пра рыбака, які праваліўся пад лёд, у Лідскі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях паступіла ў суботу, 10 снежня, у 9 раніцы. Здарэнне адбылося ля вёскі Філонаўка.

Туды выехалі выратавальнікі і "хуткая дапамога".

– Калі мы прыехалі, да нас насустрач ужо спяшаўся мужчына гадоў сарака, – успамінае кіроўца з Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Рахаў.** – Ён быў мокры і бег у машыну, каб сагрэцца. Аўтамабіль знаходзіўся ў некалькіх сотнях метраў ад затопленых тарфянікаў, каля чыгункі.

Як высветлілася пазней, мужчына гадоў сарака быў адным з трох рыбакоў, якія прыехалі з Ашмянаў. Ён быў мокры, бо спрабаваў дапамагчы 26-гадоваму таварышу, які праваліўся пад лёд. Але не змог. Малады чалавек на паверхні лёду пратрымаўся не больш за 10 хвілін.

– Жыхары Ашмянаў былі абсалютна не падрыхтаваны да зімовай рыбалкі, – дадаў вадалаз Лідскай выратавальнай станцыі **Віталь Захватовіч**, які таксама выязджаў на месца здарэння, – ні ў аднаго з сабой не было абсталявання для бяспекі: элементарнай шырокай дошкі, вяроўкі. Выцягнуць мужчыну, які праваліўся пад лёд, таварышы спрабавалі з дапамогай падручных сродкаў, у прыватнасці, рыдлёўкі, але не атрымалася.

**Паводле "Лідскай газеты".**

## Суседзі выратавалі з ледзяной вады маці і сына

У суботу, 10 снежня, жыхар вёскі Лейлубка Ашмянскага раёна вырашыў зрэзаць шлях дадому па возеры.

Тонкі лёд не вытрымаў, і 38-гадовы мужчына апынуўся ў вадзе. На яго крыкі першай кінулася дапамагаць 60-гадовая маці, але і яна правалілася ў ледзяную ваду. Затым падаспелі суседзі і супрацоўнікі МНС.

"Людзі выратаваныя, іх здароўю нічога не пагражае", – адзначылі ў Гродзенскай абласной арганізацыі таварыства выратавання на водах.

**Паводле БелТА.**

## 10 снежня ў Мінскай вобласці патанулі шэсць чалавек

Яшчэ двух удалося выратаваць. Сярод ахвяр – рыбакі.

Бяспечным для чалавека лічыцца лёд таўшчынёй не менш чым сем сантыметраў, але такога цяпер няма нават на поўначы краіны, паведамляе СТВ.

Апошнія пяць гадоў колькасць няшчасных выпадкаў са смяротным зыходам на лёдзе змяншаецца, заўважае вядучы спецыяліст Беларускага рэспубліканскага таварыства выратавання на водах **Алег Баразна.**

Большасць загінулых – рыбакі ва ўзросце ад 18 да 55 гадоў.

**Аддзел інфармацыі, паводле "Нашай нівы".**

## "Фіят" наехаў на вяскоўца

**ВАЛОЖЫН**

Адбылося гэта 11 снежня каля 11 гадзін у вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.

Кіроўца ехаў на аўтамабілі "Фіят-Дуката". Пры сустрэчным раз'ездзе машына наехала на 70-гадовага мясцовага жыхара, які рухаўся ў спадарожным накірунку па краі праезнай часткі.

У выніку пешаход з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай сярэдняй ступені цяжкасці, закрытым пераломам галёнкі дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## ДАІ шукае відавочцаў здарэння на скрыжаванні Скарыны – Будаўнікоў

**МАЛАДЗЕЧНА**

28 лістапада каля 17:30 на скрыжаванні вуліц Францішка Скарыны і Будаўнікоў у Маладзечне адбылося ДТЗ з удзелам аўтамабіля "Кіа-Спартэйг" чорнага колеру і непаўналетняга пешахода.

Пешаход пераходзіў праезную частку дарогі па вуліцы Скарыны, з боку крамы "Магнолія" ў накірунку крамы "Алімп" па рэгуляваным пешаходным пераходзе.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў дзяжурную частку Маладзечанскага РАУС на адрас: вуліца Галіцкага, д. 23, ці па тэлефонах: **8 (0176) 77-16-56, 74-53-43, 8-044-745-74-84** або **102**.

**Ілья КУЛЕШ, старшы інспектар ДПС аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, маёр.**





Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

На пярэднім плане праваабаронца Андрэй Стрыжак перад пасяджэннем суда.

# Бацькі Вікторыі Папчэні будуць змагацца далей

**МАЛАДЗЕЧНА**

**12 снежня суд аб'явіў рашэнне па справе Вікторыі Папчэні, дзяўчынкі, якая загінула на ўборцы бульбы.**

Суд не прызнаў іск бацькоў, якія патрабавалі прызнаць працоўныя адносіны паміж іх дачкой і таварыствам "Усход-агра".

Суд патлумачыў, што працоўных адносінаў не было, бо яе не наймалі на работу.

Як паведаміў "РГ" праваабаронца ісца **Андрэй Стрыжак**, бацькі не адмовіліся ад сваёй ранейшай пазіцыі: працоўныя адносіны, па іх меркаванні, усё ж такі былі.

– На судзе ёсць момант няпэўнасці, – адзначае праваабаронца. – Таму мы былі гатовыя да любога рашэння – як станоўчага, так і адмоўнага. Аднак бацькі не будуць апускаць рукі. Па законе ў іх ёсць дзесяць дзён, каб скласці касацыйную скаргу ў вышэйстаячы суд. У гэтым дапаможа прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці.

Як пракаментаваў Андрэй Стрыжак, паводле рашэння суда атрымліваецца, што дзяўчынка нібы і не працавала на полі. А што ж тады рабілі некалькі дзясяткаў чалавек, якія былі накіраваныя на ўборку бульбы ад прадпрыемстваў, розных устаноў? Працавалі. Значыць, і працоўныя адносіны ўсё ж такі былі.

"Рэгіянальная газета" сочыць за развіццём гэтай справы. Справаздачы з пасяджэнняў суда вы можаце прачытаць на нашым сайце rh.by.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Саліст беларускага гурта Botanic Project асуджаны Маладзечанскім судом на дзевяць гадоў турмы

**МАЛАДЗЕЧНА**

12 снежня вакаліста і заснавальніка маладзечанскага рэгі-гурта Botanic Project **Кліма Малажавага** раённы суд прыгаварыў да дзевяці гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Яго абвінавацілі ў незаконным абарачэнні наркотыкаў.

Пра гэта паведаміў вакаліст гурта **Андрэй Багамолаў**, які прысутнічаў на ўсіх шасці пасяджэннях суда.

– Справа вялася практычна са слоў аднаго чалавека, галоўнага сведкі супраць Кліма – знакамітага беларускага музыкі **Косці Гарачага.** Пракурор адразу запрасіў дзевяць гадоў узмоцненага рэжыму. Чамусьці ў працэсе не быў устаноўлены геном, у тэлефонных размовах не вялася гутарка пра набыццё. Уся справа была выбудаваная на словах аднаго чалавека. Як не круці, дзевяць гадоў – гэта многа.

Асуджаныя таксама і двое сяброў Кліма: Косця Гарачы атрымаў тры гады ўмоўна, а дызайнер гурта **Сазонаў** два гады "хіміі".

Кліма Малажавага затрымалі 27 ліпеня. Таму да свайго 10-годдзя гурт выпусціў свой новы альбом без яго ўдзелу.

Таксама Botanic Project запісаў песню "А хто там ідзе?" на верш Янкі Купалы 1905-1907 гадоў і музыку песні Exodus славутага ямайскага рэгі-спевака **Боба Марлі.**

**Паводле радыё "Свабода".**

## Пачалі судзіць экс-начальніка ДАІ Вілейскага раёна

**ВІЛЕЙКА**

Былы кіраўнік раённай ДАІ абвінавачваецца па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса, у тым ліку ў атрыманні хабару.

Мінскі абласны суд у ходзе выязнога пасяджэння ў Вілейцы пачне разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да былога начальніка аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС, паведамілі ў судзе.

"12 снежня а 11 гадзіне Мінскі абласны суд пачне судовае разбіральніцтва па крымінальнай справе па абвінавачанні былога начальніка аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС", – паведаміла Sputnik у пятніцу афіцыйны прадстаўнік суда Вілейскага раёна **Таццяна Свірыда.**

Паводле яе слоў, былы начальнік аддзела ДАІ абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынстваў: "Бяздзейнасць службовай асобы" (ч. 2 арт. 425), "Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, учыненае з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці (ч. 2 арт. 426), "Службовая падробка" (ч. 1 арт. 427), "Атрыманне хабару" (ч.1 і 2 арт. 430) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

**Паводле sputnik.by.**

# Удзельніца посткросінгу:

## “Паставіла птушачку ў анкеце, каб не атрымліваць паштоўкі з Беларусі”

МАЛАДЗЕЧНА

**– Мне проста нецікава атрымліваць тое, што магу купіць сама,**

– расказвае маладзечанка **Наталля Цар**. – Адна з першых паштовак была з выявай музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага. Гэта зусім не тое, чаго чакала, маладзечанцы адправіць фота яе роднага горада.

Раней у газетах былі рубрыкі з адрасамі людзей, якія хацелі перапісвацца. Па перапісцы ў Наталлі былі дзве сяброўкі, часам пісала яшчэ некалькім.

– Пасталеўшы, кінула гэты занятак, – дзеліцца жанчына. – Незнаёмаму чалавеку не раскажаш пра свае клопаты, перажыванні, не спытаеш парады. А пісаць агульныя фразы, якi сэнс у такой перапісцы. Знайшла аналагічны варыянт – посткросінг.

У калекцыі маладзечанкі ёсць паштоўкі з Аўстрыі, Германіі, Нарвегіі, Кітая, Егіпта і іншых краін свету, але больш за ўсё з Расіі.

Каля чатырох паштовак яна адпраўляе ў месяц, столькі ж прыблізна і атрымоўвае. Ужо назбіралася тры каробкі.

– Асаблiва ўразіла паштоўка з Сібіры, – пакавае Наталля. – Дзяўчына раздрукавала малюнак, які зрабіла малодшая сястра, на ім цёпла апранутая дзяўчынка з санкамі. Адчувалася, што чалавек падумаў перад тым, як адправіць.

### Атрымліваю паштоўку і адразу маю ўяўленне аб краіне

Выявы на паштоўках – гэта не проста прыгожы малюнак, дзякуючы яму чалавек атрымоўвае першае ўяўленне пра пэўную краіну, яе асаблівасць, многае можа расказаць і марка.

– Напрыклад, на паштоўках з Нідэрландаў рознакаляровыя драўляныя чаравічкі, – прыгадвае Наталля. – Спачатку здзівілася, чаго менавіта такая ілюстрацыя, адказ знайшла з адваротнага боку. Чаравічкі называюцца кломпы – гэта традыцыйны галандскі абутак. Клімат Нідэрландаў вільготны, а драўляны абутак добра абараняе ад вільгаці і зімовага холаду дзякуючы тоўстай падэшве. Раней іх насілі пераважна бедныя. Кломпам надавалі вялікае значэнне, першую пару рабілі адразу ж пасля нараджэння дзіцяці. А калі малады чалавек дарыў дзяўчыне ў падарунак чаравічкі, гэта было аналагам прапановы рукі і сэрца. Турысты, якія прыязджаюць у Нідэрланды, не абыходзяць сувенірныя кломпы.

### Праз паштоўкі расказвае пра Беларусь

У паштоўках, якія адпраўляе ў іншыя краіны, стараецца расказаць, дзе знаходзіцца краіна, у якой жыве.

– Часам малюю рамонак, у цэнтры ўпісваю Беларусь, а па баках – краіны-суседкі. Малюнак добра паказвае, што мы не толькі ў цэнтры гэтых краін, але і ў цэнтры Еўропы, – дзеліцца маладзечанка.

На адваротным баку паштоўкі складае спіс таго, што абавязкова трэба зрабіць у Беларусі:

1. Наведаць Белавежскую пушчу.
2. Сустрэць світанак на адным з трох тысяч азёр Беларусі.
3. Пабачыць белавежскага зубра.
4. Прагуляцца па адным з замкаў.
5. Паесці дранікаў.
6. Пачытаць кнігу ў Нацыянальнай бібліятэцы.

### Колькі трэба грошай на захапленне

Маладзечанка прызнаецца, яе захапленне адносна недарагое. Адна паштоўка каштуе прыблізна 1 рубель 50 капеек плюс марка.

– Але ж справа не ў грашах, гэта такое шчасце атрымаць узамен паштоўку з іншай краіны, з іншага кантынента, – дзеліцца Наталля. – Кожная паштоўка – гэта сюрпрыз: ніколі не ведаеш, з якой ілюстрацыяй яна будзе, з якой краіны свету. Асабліва прыемна, калі выбіраеш паштоўку, а пасля ў адказ атрымліваеш ліст з падзякай, наколькі чалавеку спадабалася. Пасля такога ажно крылы вырастаюць.

Жанчына ўпэўненая, калі ты хочаш адчуваць сябе шчаслівым, у першую чаргу трэба самой дарыць больш святла. Прынось задавальненне сам, і ты яго атрымаеш.

– Займаючыся посткросінгам, я зразумела, што кожны чалавек некаму патрэбны і калі самому выходзіць на кантакт з іншымі людзьмі, то жыццё не будзе падавацца такім змрочным, – раіць жанчына.


Фота забяспечанае Наталляй ЦАР.

**Займаючыся посткросінгам, Наталля Цар зразумела, што кожны чалавек некаму патрэбны і калі часцей кантактаваць, то жыццё не будзе падавацца змрочным.**

**Даведка “РГ”. Посткросінг** – магчымасць абменьвацца паштоўкамі з людзьмі з розных краін свету. Для гэтага неабходна зарэгістравацца на спецыяльным сайце. Адразу ж табе дасылаюць некалькі адрасоў, па якіх можна адправіць паштоўку. Іншыя ўдзельнікі атрымліваюць твой адрас. Паштоўка павінна быць адзінарная, без канверта. На пачатак 2016 года ў праекце былі зарэгістраваныя 600 000 чалавек з 210 краін свету. Беларусь – восьмая краіна свету па колькасці адпраўленых паштовак і колькасці карыстальнікаў.


**Галіна Суднікoвіч**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# Баліць галава – ніякіх таблетак, паспрабуйце масаж




**Нават прыйшоўшы з чыстай галавой у цырульню, вы можаце сутыкнуцца з тым, што цырульніца пачынае нанова перамываць валасы, нават калі вы гэтага не хочаце.**

Паспрабуем разам з вучэбным цэнтрам “Сфера прыгажосці” разабрацца, чаму ў такім выпадку варта прыслухацца да парады спецыяліста.

### Навошта мыюць галаву ў цырульнях?

1. Гігіенічная мэта – выдаленне забруджванняў з паверхні галавы.

У выніку разам з пылам і іншым забруджваннем змываецца і тлушч, які выдзяляецца сальнымі залозамі. У тлустых валасах тлушч закрывае поры і замаруджвае пранікненне ў валасы сродкаў афарбоўкі і завіўкі. У гэтым выпадку абястлушчванне лічыцца не толькі гігіенічнай, але і падрыхтоўчай прыступкай да прычоскі.

2. Дэфармацыйная мэта – выдаленне слядоў папярэдняй прычоскі.

Калі вы плануеце кардынальна змяніць даўжыню валасоў, форму прычоскі, спецыяліст ні ў якім разе не можа абмінуць працэдуру мыцця. Можа атрымацца зусім не той вынік, якога вы чакалі.

3. Падрыхтоўчая мэта – размякчэнне лускаватага слою валасоў мыйнымі сродкамі. Гэта садзейнічае іх хуткаму і бесперашкоднаму ўзаемадзеянню з іншымі хімічнымі сродкамі.

Калі стаміліся, галава расколваецца настолькі, што здаецца зямля ідзе з-пад ног, то прапануем вам прыемны спосаб расслаблення – самамасаж галавы. На яго пойдзе прыкладна тры-пяць хвілін.

### Як правільна рабіць масаж галавы

Масіраваць галаву седзячы альбо стоячы, але абавязкова з расшпіленым каўнярам.

**Усе рухі рабіць па накірунку росту валасоў – ад макушкі ўніз да шыі, вушэй.**

1. Пагладжванні далонямі.

Пачынайце з бакавых частак галавы, не кранаючы вушныя ракавіны, затым лобная і патылічная часткі. Рабіце так, каб далоні злучаліся на макушцы.

Паступова пераходзьце да пагладжванняў падушачкамі пальцаў.

2. Перыядычныя ціскі асновай далоняў з розных бакоў адначасова. Пасля падушачкамі пальцаў. Большы ціск неабходна рабіць на патылічную і лобныя вобласці.

3. Расціранні (кругавыя, прамалінейныя, спіралепадобныя) падушачкамі пальцаў.

На скуру трэба не толькі націскаць, але і расцягваць.

Рухі ад макушкі ўніз да вушэй, шыі, надброўных дуг. Пасля гэтага пагладжванні, затым кругавымі рухамі расціраюць скроневыя часткі. Пры гэтым не моцна націскаць, каб не было балюча.

4. Пастукванне падушачкамі чатырох пальцаў абедзвюх рук па галаве, больш інтэнсіўна па лобнай частцы і патыліцы.

Заканчваецца масаж пагладжваннем падушачкамі пальцаў і асновай далоні.

# Мастачка Вікторыя Капуцкая: Творчасць дапамагае "не грузіцца"

МАЛАДЗЕЧНА

**На адной сцяне – дзяўчынка гушкаецца на Месяцы, на другой – усміхаецца гном, па трэцяй – крадзецца тыгр, а на чацвертай сцяне раскінула галінкі дрэва.**

Гэта не апісанне казачнага палаца. Гэта пакой у звычайнай дзевяціпавярхоўцы ў Маладзечне. А жыве тут мастачка **Вікторыя Капуцкая**.

Роспіс сцен – не адзінае захапленне дзяўчыны. Па ўсёй кватэры – штучныя кветкі, вырабы з саломкі, тканіны, выцін

Здольнасці дзяўчынкі ўбачыла настаўніца пачатковых класаў маладзечанскай школы №2 **Алена Грыб**. Яна параіла маме адвесці таленавітую дачку ў мастацкую школу. Але па ўзросце Віка не падыходзіла: вучняў пачатковых класаў у мастацкую школу не бралі.

Прыйшлося чакаць пятага класа. Але Віка не губляла час. Шмат малявала. Перамалёўвала карцінкі з кніжак. .

У сям'і, кажа Вікторыя, ніхто не маляваў. А сярод далёкіх сваякоў па бацькавай лініі былі тыя, хто захапляўся жывапісам. Да таго ж мама Вікторыі добра шые.

Калі Вікторыя заканчвала 10 класаў, яна даведалася што ў Маладзечанскім музычным вучылішчы, цяпер гэта каледж імя Агінскага, адкрылі аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Выбар навучальнай установы быў відавочны.

### Нехта маляваў, а нехта загараў: як праходзілі пленэры маладых мастакоў

Аднак якраз у гэты час у дзяўчыны невядома адкуль з'явілася сур'ёзная хвароба – рассеяны склероз. Пачаліся праблемы з рукамі.

– Дактары вельмі здзіўляліся тады, чаму рассеяны склероз у мяне пачаўся з рук, – расказвае Віка. – Звычайна пры такой хваробе адразу цярпяць ногі.

Дзякуючы дапамозе дактароў і розным лекамгармонам рукі дзяўчыны ўратавалі. Далі даведку пра тое, што яна можа паступаць на аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Там Віка набывала спецыяльнасць "саломапляценне, лён і выцінанка".

На маё пытанне, ці трэба мастаку прафесійная адукацыя, Вікторыя адказвае адназначна: трэба. Калі чалавек малюе, ён павінны ведаць асноўныя прынцыпы пабудовы карціны, асабліва колераў і адценняў.

У вучылішчы шмат малявалі. Разам з выкладчыкам і мастаком **Генадзем Селядцом** ездзілі на пленэры ў Забродздзе на Вілейшчыну і ў Залессе Смаргонскага раёна. На пленэрах хто чым займаўся. Нехта маляваў, а нехта загараў, – успамінае Вікторыя. – Я была сярод тых, што малявалі. Але пасля пленэру абавязкова трэба было здаць пэўную колькасць работ. Хто не працаваў на прыродзе, малявалі або па памяці, або па фотаздымках.

Дзяўчына была на чацвертым курсе, калі хвароба з новай сілай нагадала пра сябе. Амаль увесь апошні год Вікторыя навучалася дома. І тут рыхтавала сваю дыпломную працу – саламянага каня Пегаса.

Вікторыя прызналася, што яе вельмі вабіў вобраз Цмока. Аднак выкладчыкі сказалі, што персанаж гэты злосны, і параілі ўзяцца за Пегаса.

Саламяны Пегас застаўся ў вучылішчы. Але цяпер у пакоі шмат іншых саламяных вырабаў: кажан пад столлю, муха з вялікімі крыламі на сцяне, кветкі.

Пляце Віка не толькі з саломы: засвоіла тэхніку пляцення з газет. Па словах дзяўчыны, з газеты плесці куды лягчэй, чым з саломы. Газетныя званочкі і вялікая падкова ўпрыгожваюць пакой дзяўчыны.





Сюжэты для сваіх пейзажаў Вікторыя падглядае ў інтэрнэце.

Ёсць фігуркі з лёну: дамавік і яго жонка. Віка расказала, што падобныя фігуркі падарыла неяк сваячцы. А ў той у доме прарвала стаяк. Усе кватэры заліло, а кватэру з дамавікамі – не. Сваячка ўпэўненая, што так атрымалася дзякуючы казачным істотам.

### Маляваць на шпалерах можна не толькі ў дзіцячым узросце

Калі Віка была на другім курсе, на сцяне ў яе пакоі з'явілася дзяўчына, якая гушкаецца на Месяцы.

– Хацелася размаляваць пустую сцяну. На шпалерах акрамя календара нічога не было, – расказвае Віка. – Папрасіла ў мамы дазволу штонебудзь намаляваць.

Мама адразу не пагаджалася, а потым дазволіла. Нават сама купіла гірлянду з матылькамі, якой упрыгожылі Месяц.

Гэта стала пачаткам. Паступова на сценах пасяліліся тыграня і казачны гном. Гнома Віка падгледзела на абгортцы ад дзіцячага туалетнага мыла. А ля дзвярэй "вырасла" маляванае дрэва. Лістота на ім – амаль сапраўдная. Гэта засушаныя лісты ад фікуса.

Пытаюся ў Вікторыі, якія мастакі ёй падабаюцца.

Дзяўчыне блізкі традыцыйны рускі жывапіс, карціны Ільі Рэпіна, Івана Айвазоўскага.

– А Казімір Малевіч і Васіль Кандзінскі – гэта дакладна не маё, – кажа Вікторыя. – Не вельмі люблю абстракцыянізм.

### Намаляваць пейзаж з натуры... Пра гэта цяпер магу толькі марыць

Сама Віка малюе гуашшу. Да алею, кажа, яшчэ "не дарасла". Ды і ўмоў няма. У алейных фарбаў рэзкі спецыфічны пах. Таму ў жылых памяшканнях імі звычайна не малююць.

На карцінах маладой мастачкі – шмат разнастайных пейзажаў: на адной карціне – ярка-чырвоныя макі, на другой буяе летняя зеляніна.

Па словах Вікторыі, сюжэты для сваіх пейзажаў яна падглядае ў інтэрнэце. Бо па-іншаму ніяк. З балкона – від на чыстае поле. А пра тое, каб убачыць прыроду "ўжывую", дзяўчына можа толькі марыць. Самастойна яна не ходзіць ўжо некалькі год.

На вуліцу выбіраецца толькі ў зусім неабходных выпадках. Напрыклад, калі трэба ў стаматалагічную паліклініку. Тады даводзіцца маме звяртацца да сям'і сяброў з машынай.

– Неяк летам было вельмі добрае надвор'е, – успамінае Віка. – І вырашылі мы з мамай ехаць сваім ходам, на інвалідным вазку.

Па словах дзяўчыны, яны тады ледзь даехалі. Сама стаматалагічная паліклініка добра абсталяваная для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, але даехаць туды з Крынічнай вельмі цяжка. Усюды высокія бардзюры і пандусаў вельмі мала. Тут, на думку Вікторыі, у нашым горадам трэба яшчэ шмат працаваць.

Ільготы, кажа Віка, як бы ёсць, але як бы і няма. Тыя лекі, якія выдаюць бясплатна, дзяўчыне не дапамагаюць. А за лепшыя трэба плаціць.

Наколькі сумяшчальныя творчасць і хвароба? Вікторыя лічыць, што творчасць, перш за ўсё, дапамагае ёй "не грузіцца". Не думаць, чаму з ёй так сталася..

Два разы працы мастачкі выстаўлялі ў маладзечанскім Палацы культуры, са сваімі карцінамі Вікторыя паспяхова ўдзельнічала ў творчым конкурсе "Час жыць". Пра гэта нагадвае дыплом на сцяне і гадзіннік з эмблемай конкурсу.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Завяршыўся праект "Рэгіянальнай газеты" "Літпарад Павілля"

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ, ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ, СМАРГОНЬ

**Сёлета ў лютым "Рэгіянальная газета" распачала літаратурны праект "Літпарад Павілля".**

Раз на месяц вядучая праекта **Аксана Ярашонак-Камінская** рыхтавала старонку, прысвечаную літаратурнаму жыццю аднаго з раёнаў Павілля. Чытачы маглі пазнаёміцца з мінулай і сучаснай літаратурай пэўнага раёна і з паэтамі, якія там жывуць або маюць карані з гэтых мясцін.

Калі паўдзельнічаць у праекце мы прапанавалі **Віктару Шніпу**, галоўнаму рэдактару "Мастацкай літаратуры", ураджэнцу Пугачоў на Валожыншчыне, атрымалі такі адказ:

– Вельмі рад, што вы ўзяліся за такую патрэбную справу. На мяне можаце разлічваць на 100%.

Віктар Шніп лічыць, што вершы ў газеце – гэта заўсёды добра. Дзякуючы ім школьнікі раёна могуць даведацца пра жывых паэтаў. А творчых людзей такія публікацыі падштурхоўваюць да сувязі з газетай.

Іншыя творцы таксама ахвотна пагаджаліся ўдзельнічаць у праекце. Сярод вядомых у Беларусі паэтаў у "Літпарадзе" мы друкавалі вершы **Уладзіміра Някляева** са Смаргоншчыны, **Міколы Шабовіча** з Мядзельшчыны, Віктара Шніпа з Валожыншчыны, **Таццяны Атрошанкі** з Маладзечна, **Уладзіміра Цануніна** з Вілейкі.

Самым "далёкім" нашым аўтарам стаў член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Станіслаў Валодзька**. Паэт родам з Астравеччыны. Але ўжо доўгі час жыве ў Латвіі і там піша вершы па-беларуску.

Для **Тараса Апарыка** з Вілейкі, **Чаславы Сідарэвіч** з Астраўца, **Настассі Бабкевіч** з Мядзельшчыны публікацыі вершаў сталі першымі ў іх літаратурнай творчасці.

Па выніках праекта ў рэдакцыі прайшоў "круглы стол" "Перспектывы развіцця літаратуры ў рэгіёне". У ім прынялі ўдзел літаратары з Маладзечна і Вілейкі.

Аддзел інфармацыі.

# ВІНШАВАНКА

**З юбілеем!**
**Вячаславу Станіслававічу**
**КАРПОВІЧУ**
**з в. Мікуліна**
**Вілейскага раёна**



*Дарагі сусед, хросны тата!*
*Хотим поздравить с юбилеем,*
*Здоровья, счастья,*
*мира пожелать.*
*Пусть каждый день*
*счастливым будет,*
*Тебя пусть будут окружать*
*Лишь только искренние люди.*
*Желаем жить и не грустить,*
*А вот главный наш завет:*
*Прожить здоровым до ста лет!*
*Желаем благ земных,*
*Мы знаем, ты достоин их!*

**З павагай,**
**сем'і Сяргеевых і Куляшоў.**

# ПАДЗЯКА

У кастрычніку я звярнуўся у "Рэгіянальную газету" са сваёй праблемай. У інтэрнаце па вул. Паркавай у Маладзечне, дзе я жыву з сям'ёй, з боку вуліцы адвалілася цэгла ад сцяны. Таму кут на кухні намакаў. Я звяртаўся да свайго кіраўніцтва, але выніку не было. Карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" **Аксана Ярашонак** узялася за маю справу і дапамагла. Сцяну адрамантавалі і ўцяплілі.
Шчыра дзякую Аксане і газеце.

**Жыхар Маладзечна**
**Аляксандр Шаўлюк.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газбензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Міцубісі-Харызма, 2000 г.в., 1,9 тд, серабрысты металік, 3000 руб. Мядзел. Т. (8-029) 7573638.
- Нісан-Сані, 1993 г.в., 1,6 інжэктар, седан, блакітны металік, добры стан, 2300 руб. Т. (8-025) 7606681.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-406, 2003 г.в., дызель 2,0 НДІ, цана 7000 рублёў. Т. (8-029) 9462238.*
- Фіят-Брава, 1997 г.в., 1,6 бензін, 5 МКП, шэры. Т. (8-029)Т. (8-029) 9346173.
- Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*
- Запчасткі б/к да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/к да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

## КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль 1990-2015 г. выпуску, можна аварыйны альбо з дэфектамі, для сябе. Т. (8-029) 1696265, (8-029) 7703210.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Іншамарку для сябе, на хаду, можна аварыйную альбо з дэфектамі. Т. (8-029) 7703210, (8-029) 1696265.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*





## ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-025) 7417101, (8-01771) 20165.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2520004.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв. м. Т. (8-029) 6795426.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6842528.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. Крынічнай, 25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГБК-2, блок №10. Вілейка. Т. (8-029) 6842528.*
- Гараж у ГК № 14, патынкаваны, бетонная падлога, яма, падвал. Т. (8-029) 7082574.
- Гараж у ГК-14 у Маладзечне, 4000 руб. Т. (8-029) 8758738.
- Дом і зямельны участак 0,13 га, в. Ілішчавічы, д. 70, 1 і 3 фазн. электр., газ, тэлефон, ТВ, НЭТ, калодзеж, сад, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 2716622, +79035 849995.
- Дом у в. Казловічы. Т. (8-033) 3501070.
- Дом у в. Порса Вілейскага р-на. Выгоды ў доме. 52 кв. м. Т. (8-033) 6037713.
- Дом у Вілейцы па вул. Камсамольскай, 13, цэнтр, ацяпленне, вада, добры раён. Т. (8-029) 7589686.

## ЗДАМ

- 2 пакоі ў прыватным доме ў Маладзечне. Без дзяцей. Нядорага. Т. (8-0176) 504843, (8-029) 8771082.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з санвузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі. Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м+55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з санвузлом, асобны ўваход, можна пад офісы/вытворчасць/склад.Размяшчэнне каля ГЦ "Спадарожнік" у Маладзечне.ІП Суднікові В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).





# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Паслугі перавозкі МАЗ, 10 т.: дровы (бярозавыя), гравій, чарназём. ІП Слуцкі Д.В. УНП 691172393. Т. (8-029)8758586.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выканаем комплексны рамонт: тынкоўка, столь з ГКЛ, шпаклёўка, афарбоўка, электрыка, сантэхніка, укладка пліткі, ламінату, паклейка шпалер (абоев). ІП Крывашэя В.Г. УНП 691885229. Т. (8-029) 1391932.*
- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамога напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Яблыкі згнілі ці пайшлі на корм жывёле: якія хібы знайшлі ў аграфірме "Лебедзева"

МАЛАДЗЕЧНА

**Філіял аграфірма "Лебедзева" РУП "Мінскэнерга" з'яўляецца адным з лідараў Маладзечанскага раёна па вытворчасці прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі, арганізаваная перапрацоўка насення рапсу.**

У межах рэалізацыі Дзяржпраграмы развіцця пладаводства на 2004 – 2010 гады з дапамогай дзяржпадтрымкі філіял у 2010 годзе ўвёў сучаснае фруктасховішча на 2 200 тон, заклаў сад на плошчы звыш 90 гектараў.

Здавалася б, заданне выканалі – "гектары саду закладзеныя". Але прыйшоў час збіраць значны ўраджай, а яго не аказалася, а тое, што вырасла, доўга не захоўваецца. Сад заклалі, але не тымі сартамі і не паводле схемы, прадугледжанай праектам. Праектам закладкі саду прадугледжвалася 90% пасадкі яблынь зімовых сартоў і 10% асенніх. Фактычна – 80% саду асеннія і раннія зімовыя сарты, зімовыя толькі 15%.

У выніку, чым вышэйшы валавы збор прадукцыі пладаводства, тым большыя ў філіяла страты. Значная частка ўраджаю паступала не на стол спажыўцам, а рэалізоўвалася на перапрацоўку, выкарыстоўвалася на корм жывёле або папросту згнівала. А ў пабудаваным сучасным фруктасховішчы фактычна няма чаго захоўваць.

У 2014 годзе напаўняльнасць 19% ад праектнай магутнасці, а ў 2015 і зусім 8%.

Не ўсё ў парадку і ў жывёлагадоўлі – абарот кармавых дадаткаў і кармоў з мноствам парушэнняў.

З-за ўдзелу ў пастаўках пасярэднікаў цана на закупленыя кармавыя дадаткі павялічвалася для філіяла ў разы, у шэрагу выпадкаў заданні на закупку відавочна рыхтаваліся пад канкрэтнага пастаўшчыка. Пры гэтым закупленыя блокі-лізунцы для кармлення жывёл коштам звыш 200 тысяч рублёў не адпавядалі патрабаванням Тэхрэгламенту.

Не абмінула філіял і спакуса палепшыць вытворчыя паказчыкі. Напрыклад, 68 галоў дойнага статка перавялі ў адкорм і працягвалі іх даіць, чым атрымалася "павысіць" сярэднясутачны надой на карову фермы "Мароські №2" за справаздачны перыяд на 9%.

Істотныя пралікі і ў раслінаводчай галіны філіяла – факты закупу ядахімікатаў звыш запатрабаванай колькасці, а часам з прайшоўшым тэрмінам прыдатнасці.

Да прыкладу, у адной з камерцыйных арганізацый у чэрвені 2014 года філіял набыў угнаенні, якія больш за два гады не былі запатрабаваны. У наступным названыя прэпараты былі выкарыстаныя, але пра эфект даводзіцца толькі здагадвацца.

У красавіку 2015 года філіял набыў стымулятар росту з загадзя прайшоўшым тэрмінам прыдатнасці.

Матэрыялы праверкі дзяржкантроль накіраваў для дачы прававой ацэнкі ў праваахоўныя органы, а для прыняцця мер рэагавання – у РУП "Мінскэнерга".

За дзеянні філіяла РУП "Мінскэнерга" аштрафаваны на 31,7 тысячы рублёў, сем службовых асоб – на 966 рублёў і сем чалавек прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## Стань Снягурачкай “РГ”

Напярэдадні навагодніх святаў “Рэгіянальная газета” шукае Снягурачку, якая зможа павіншаваць чытачоў рэгіёна, а таксама сваіх блізкіх са святамі.

Мы не робім абмежаванняў па ўзросце, неабавязкова, каб у вас была мадэльная знешнасць. Кожная з прадстаўніц прыгожага полу можа красавацца на першай старонцы.

Галоўнае наша патрабаванне, каб ваша ўсмешка была пазітыўнай, бо менавіта яна будзе натхняць жыхароў рэгіёна верыць у светлае заўтра, падорыць шчаслівы настрой на святы, дапаможа паверыць, што цуды здараюцца.

**Свае фотаздымкі можаце дасылаць на электронную пошту regionnews@rh.by альбо ў сацсетках.**

Чакаем фотаздымкаў **да 22 снежня.** У пятніцу, 23 снежня, на сайце будзе галасаванне, падчас якога чытачы выберуць, каго б хацелі бачыць у якасці Снягурачкі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мяса з лічынкамі трыхінел можа аблажыць усю сям’ю з тэмпературай 40

МАЛАДЗЕЧНА

Штогод у краіне рэгіструюцца ўспышкі трыхінелёзу. Летась было 29 такіх выпадкаў.

Улічваючы паляўнічы сезон на дзікіх капытных жывёл і наступленне сезона масавага забою свіней у прыватных гаспадарках, варта нагадаць, што гэта за захворванне і як ад яго засцерагчыся.

Трыхінелёз узнікае, калі спажываць недастаткова тэрмічна апрацаванае мяса, якое ўтрымлівае лічынкі трыхінел.

### Прыметы захворвання

1. Ацёк твару і павекаў.
2. Моцныя мышачныя болі.
3. Тэмпература да 40 градусаў.
4. Страўнікава-кішачныя расстройствы.

Захворванне праяўляецца сямейна-групавымі ўспышкамі.

Крыніцай захворвання з’яўляюцца дзікія драпежныя і ўсёедныя жывёлы (дзікі, барсукі, мядзведзі, лісы, ваўкі), а таксама свойскія свінні, заражаныя трыхінелёзам.

Каб пазбегнуць захворвання, неабходна правесці санітарна-гігіенічную экспертызу мяса як дамашніх свіней, так і жывёл, падстрэленых падчас палявання.

Мяса можна праверыць на рынках па вуліцах Багдана Хмяльніцкага, 1 і Міру, 3, а таксама ў міжрайветлабараторыі Маладзечанскай райветстанцыі ў вёсцы Мянюткі, 1-б.

### Лічынкі трыхінел у мясе ўстойлівыя да неспрыяльных фактараў

Калі лічынкі трыхінел знайшлі, мяса неабходна знішчыць. Бо лічынкі ўстойлівыя да неспрыяльных фактараў: саленне дрэнна дзейнічае на іх, яны з лёгкасцю пераносяць вэнджанне і застаюцца жыццяздольнымі, калі смажыць альбо варыць мяса.

Нельга вывозіць з тэрыторыі паляўнічых угоддзяў і спажываць мяса дзіка. За парушэнне дадзенага патрабавання пагражае адміністрацыйная адказнасць.

Небяспечна набываць мяса і мясныя вырабы ў невядомых асоб па-за гандлёвымі пунктамі, мяса без кляйма альбо пасведчання аб правядзенні ветэрынарна-санітарнай экспертызы.

**Паводле доктара-паразітолага Ганны ГІЛЬ.**

● НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Хаценчыцы і наваколле ў людскіх лёсах

*Працяг. Пачатак у №49.*

ВІЛЕЙКА

**Апошнім часам гістарычнай праўды раскрываецца шмат, але далёка не ўся. Таму, пакуль ёсць яшчэ жывыя сведкі тых далёкіх і трагічных часоў, трэба, не губляючы часу, запісваць і абнародаваць іх праўдзівыя распаведы пра сталінскія рэпрэсіі і жахі апошняй вайны.**

Даносы чэкістам паступалі рэгулярна, і былі яны больш пад заказ. НКВД трэба было выконваць даведзены партыяй план на бясплатную працоўную сілу. І яны яго выконвалі паспяхова! "Чорны варанок" наведваўся ў вёскі часта, пераважна ў начны час. Школы былі пазачыняныя, ні было каму дзетак вучыць. Польскамоўныя настаўнікі ўцяклі, а хто не паспеў, таго арыштавалі. У суседнім Батурыне пасля 17 верасня касцёл таксама не працаваў.

А Юзюк тым часам, вольны ад вучобы, рос працавітым хлопцам. Мабыць, усё ж такі выявіліся гены бацькі. Ён рабіў усё, што прасілі старэйшыя, маці альбо бабка Марыля. У сям'і Дарожкаў гэта быў адзіны ўнук, і таму бабка Марыля яго вельмі шкадавала і не магла нарадавацца, што ён такі руплівы і паслухмяны. Дзесьці ў глыбіні душы яна адчувала віну перад унукам, што той расце без бацькі, бо гэта ж яна не дазволіла дачцэ злучыць свой лёс са сваім нарачоным, Пётрам Боханам. І, мабыць, каб хоць неяк загладзіць віну, акружыла яго клопатам і ўвагай.

## Немцы прыйшлі і ў Мардасы

Вось так і жылі мардасяне амаль два гады ў падвешаным стане, пакуль не наступіў 1941 год. Вайну Юзюк сустрэў у дзесяцігадовым узросце у сваіх Мардасах. Яна прыйшла сюды ціха, без гарматных выбухаў і страляніны. Ужо 25 чэрвеня з боку Хаценчыцаў па вясковай вуліцы пацягнуліся матацыклы, грузавікі з нямецкімі вайскоўцамі і бронемашыны са свастыкай. Калоны рухаліся ў накірунку Крамянца і Мышыцаў да самага вечара. Вулічная брукаванка, не бачыўшы дагэтуль такой колькасці цяжкай тэхнікі, прасядала ў каляіны, а месцамі ўвогуле правальвалася. Надвячоркам усё сціхла, як быццам бы тут нікога і не было.

На наступны дзень мардасяням стала вядома, што ў Хаценчыцах немцы разгарнулі вайсковы гарнізон і камендатуру. Нямецкая ўлада заступіла ў свае правы. Па вёсках пайшлі яе прадстаўнікі, літоўскія паліцаі. Завіталі яны і ў Мардасы і давялі да ведама насельніцтва патрабаванні новай улады. Першае і самае галоўнае – гэта поўнае падпарадкаванне жыхароў нямецкаму парадку. А для паўсядзённага кантралявання выканання гэтага парадку жыхары павінны былі "дэмакратычным" шляхам выбраць свайго солтыса. Але ў мардасян "дэмакратыі" не атрымалася, бо добраахвотнікаў на гэту пасаду не знайшлося. Тады прымусова быў прызначаны вясковец Сцёпка Бандысёнак. Так у Мардасах і ў іншых вёсках з'явілася свая ўлада.

Немцы спачатку прызначалі падатак, зыходзячы з магчымасці сялянскіх гаспадарак. Юзюк разам з вяскоўцамі амаль штодня вымушаны быў пераадольваць адлегласць у 12 вёрст да Раёўкі, каб разлічыцца за падатак малаком для нямецкіх салдат.

Але ж тут у той час існавала не адна нямецкая ўлада, вяскоўцы павінны былі выконваць загады яшчэ дзвюх, партызанскай і лесабандыцкай – "лятучых галандцаў", якія сваімі крывавымі расправамі над цэлымі сем'ямі наводзілі жах на мірнае насельніцтва. І амаль заўжды заставаліся невядомымі, неапазнанымі. Магчыма, з-за таго, што яны былі не мясцовыя, а засланыя правакатарамі.

У адрозненне ад немцаў, гэтыя "падаткаабкладальнікі" прыязджалі па аброк самі. Партызаны бралі зыходзячы са сваіх патрэб. А вось лесабандыцкія фарміраванні падчас начных нашэсцяў на вёскі забіралі ў сялян усё, што толькі ім трапляла пад рукі. Пачынаючы з прадуктаў харчавання, адзення, абутку і заканчваючы нават жаночай споднай бялізнай. Людзі апынуліся ў трайных цісках. Але трэба было неяк выжываць і выкручвацца ў гэтым смяротным трохкутніку.



Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

**Сям'я Шабуневічаў. Болесь стаіць каля таты Іосіфа, а Віктар на крэсле каля матулі Веры.**

Пакуль лясныя ўлады не забаранялі сялянам плаціць немцам аброк, апошнія ў вёску наведваліся вельмі рэдка. Прыязджалі толькі тады, калі солтыс не мог сам справіцца з якім-небудзь неплацельшчыкам падатку. Яму, у лепшым выпадку, пагражаў бізун, а то як злачынца-сабатажнік мог апынуцца і ў лагеры.

## Жахі вайны 1942-га

"Вясёлае" жыццё пачалося з вясны 1942-га, калі на нямецкі падатак партызаны наклалі вета. Кожнаму, хто не падпарадкоўваўся, пагражала нават смяротнае пакаранне, як за здраду. А немцы са свайго боку пачалі караць людзей за непадпарадкаванне ім, як партызанскіх пасобнікаў. Людзі не па сваёй волі апынуліся паміж накавальняй і кавадлам. Іосіф Пятровіч добра памятае забойствы сваіх вяскоўцаў ляснымі бандытамі. Ім таксама добра быў вядомы партызанскі загад насельніцтву не плаціць аброк немцам.

Неяк аднойчы, расказвае Іосіф Пятровіч, як звычайна ноччу, некалькі бандытаў уварваліся ў хату да яго суседзяў Шабуневічаў. Усіх, хто на той час быў у хаце: гаспадара Іосіфа, яго жонку Марыльку і іх сына Болеся, вывелі на вуліцу і пагналі у бок свінарніка. Праз нейкі час у тым баку у лесе прагучалі стрэлы. Усе ў вёсцы адчулі нядобрае і зразумелі, што сям'і Шабуневічаў больш няма.

Прычынай знішчэння сям'і паслужыла тое, што перад гэтым гаспадар аддаў аброк немцам. І яшчэ як сям'ю нядобранадзейную, таму што Іосіф пры Польшчы служыў пры двары ў пана Бароўскага прыганятым. Лёсам было наканавана застацца ў жывых толькі старэйшаму іх сыну, Віктару. У той трагічны для яго сям'і вечар Віктар пайшоў на сустрэчу да сваёй каханай дзяўчыны, Шахрай Веры, якая яго і выратавала ад немінучай смерці, схаваўшы ў дрывотні. Некалькі разоў бандыты наведваліся ў вёску, каб адшукаць Віктара, але пасля пошукі спыніліся.

Праз нейкі час з'явіўся партызанскі атрад імя "Варашылава", у яго рады Віктар і ўліўся. У 1944 годзе пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў ён быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Скончыў вайну у Берліне, пакінуўшы на Рэйхстагу свой подпіс. Быў тройчы паранены, узнагароджаны медалямі "За перамогу над фашысцкай Германіяй", "За ўзяцце Кёнігсберга", ордэнамі Айчыннай вайны і іншымі.

Пасля дэмабілізацыі з савецкага войска ў 1945 годзе вярнуўся Віктар Іосіфавіч у родную вёску да сваёй каханай Веры Шахрай і адразу на ўсё жыццё звязаў з ёй свой лёс. Праз год нарадзіўся ў іх сынок, якога назвалі Генадзь, у гонар бацькавага сябра, які выратаваў Віктару жыццё пры праходжанні тэрміновай службы (1935-1937) у польскім войску.

Вайсковая часць, у якой служыў Віктар Шабуневіч, дыслакавалася недалёка ад савецкапольскай мяжы. Аднойчы адбылося сутыкненне польскіх памежнікаў з савецкімі дыверсантамі. На дапамогу ім быў накіраваны атрад жаўнераў, у якім і служыў Віктар. Сходу рушылі ў бой. Віктар не заўважыў, што далёка адарваўся ад сваіх. У выніку апынуўся ў варожым тыле. Вораг націскаў з усіх бакоў, патроны скончыліся, у ход пайшоў стратэгічны рэзерв, гранаты. Калі заставалася ўжо апошняя лімонка для сябе, бо ў палон здавацца Віктар не збіраўся, раптам дзесьці зусім блізка застракатаў кулямёт. Як пазней высветлілася, гэта Віктару на дапамогу прыйшоў яго сябра, Генадзь Вайцяхоўскі. Родам ён з Ашмяншчыны.

У 1949-м нарадзілася дачушка, назвалі яе Марылькай, у гонар дзвюх бабак. Адну з іх расстралялі лясныя бандыты ў 1942 годзе. Герой вайны спрабаваў знайсці тых лясных "лятучых галандцаў", забойцаў сваіх родных, але ўсе яго намаганні засталіся безвыніковымі. Нідзе і ніхто не жадаў гэтым займацца.

## Забойства Сцяпана Бандысёнка і Мікалая Шахрая

Не толькі пра забойцаў сваёй сям'і не даведаўся Віктар Іосіфавіч, але нават не змог высветліць, дзе іх магілка. Пасля гібелі сям'і Шабуневіча, распавядае далей Іосіф Пятровіч, ланцужок забойстваў пацягнуўся на другі канец Мардасоў, да солтыса вёскі, Сцяпана Бандысёнка. Бандыты абвінавацілі яго ў тым, што той завёз падатак (збожжа) немцам у Ілью. Але ж каб гэтага ён не зрабіў, немцы маглі б знішчыць усю вёску. А цяпер яму, як здрадніку і пасобніку фашыстаў, прыйшлося аднаму несці адказнасць перад лясными бандытамі.

Тыя нелюдзі, відаць, былі добра інфармаваныя, бо прыгадалі Сцяпану яшчэ і яго службу ў пана Бароўскага. А працаваў Сцяпан на панскай канюшні звычайным рымарам (шыў пастронкі). Сцяпанавай сям'і пашанцавала больш, чым Шабуневічам. Сцяпана бандыты расстралялі аднаго, а сям'ю яго, на дзіва ўсім, чамусьці не зачапілі. Але затое расстралялі яго зводнага брата, Мікалая Шахрая (Марцінчыка). Не выратавала ад смерці і яго партызанская дзейнасць, бо афіцыйнае абвінавачанне Мікалаю ставілі быццам бы за марадзёрства. Сям'ю яго таксама не кранулі.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

**Працяг будзе.**

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Фота з 1976-га. Застаецца адна загадка

МАЛАДЗЕЧНА

**Пару нумароў таму мы размясцілі фатаграфію, якую прынёс у рэдакцыю чытач Аляксандр Салагуб. Здымак, мы пазначылі, быў зроблены прыкладна ў 1975-м годзе ў двары маладзечанскага дзіцячага садка №5. Ці пазнае хто тут сябе або свайго сябра ці сваяка?**

Адразу нам патэлефанаваў **Юры Зімніцкі** з Маладзечна. Ён дакладна мог назваць некаторых герояў здымка. Другая справа, расказаў нам наш чытач, калі прыйшоў у рэдакцыю, – Ірына Чургель, цяпер Вірынская. У дарослым жыцці стала медсястрой, як і яе мама, якая ў сямідзясятыя працавала медсястрой у тым самым садку №5. Знізу справа – **Валодзя Уласевіч**. Пасярэдзіне ўнізе **Сяргей Шульжыцкі**. Ну і быццам зверху другі справа сам Юры. Праўда, ён не быў у гэтым абсалютна ўпэўнены.

Сумненні развеяла маладзечанка **Ніна Сямёнаўна Качаткова**:

– Я дакладна магу сказаць, што гэта мой сын Віталь. Ну, я ж мама, памыліцца не магу.

Віталь Качаткоў, які, дарэчы, з'яўляецца партнёрам "Рэгіянальнай газеты" ў сумесным праекце "Наша кухня" на сайце www.rh.by, таксама прызнаў у хлопчыку ў белай кепцы сябе.

Ніхто не мог пазнаць крайняга правага хлопчыка з верхняга раду. Хаця мы першапачаткова ведалі, што гэта сын аўтара здымка Аляксандра Салагуба **Аляксандр Салагуб** малодшы.

**Іру Чургель** пазнала і Ніна Качаткова. А яшчэ яна сказала, што дзяўчынка знізу злева з засяроджаным позіркам – **Наташа Буртыс**:

– Яе дзядуля Павел Еўдакімавіч працаваў на млынкамбінаце намеснікам дырэктара, – удакладніла Ніна Сямёнаўна. – Я яго добра памятаю як вельмі прыстойнага і добрага чалавека.

Пакуль мы не ведаем, хто ж такая крайняя дзяўчынка зверху.

Для таго каб лепш разабрацца, **Юры Зімніцкі** прынёс некалькі здымкаў з дзіцячага сада, якія ён беражліва захоўвае. Адзін з іх – выпускны. Там фота ўсіх дзяцей падпісаныя. Але суаднесіць гэтыя здымкі і рабіць высновы, хто ж гэта дзяўчынка, мы ўсё ж не рашыліся. Спадзяёмся на тое, што гераіню мы знойдзем з вашай дапамогай, дарагія чытачы.

Гісторыя з гэтым здымкам ужо паказала, што яна прымусіла многіх хваляваацца і ўспамінаць з любоўю далёкія сямідзясятыя.

Ніна Качаткова, дарэчы, кажа, што, хутчэй за ўсё, гэта не 1975 год, як мы дапускалі, а 1976. Бо Віталю там пяць гадкоў. А ён нарадзіўся 28 лістапада ў 1971-м.

Юры Зімніцкі (на выпускным фотаальбоме ў яго прозвішчы дапушчаная памылка) гаворыць, што вельмі любіў хадзіць у садок. "Бо там у садзе раслі такі-і-я смачныя яблыкі!" А яшчэ яму запомнілася, як у двор садка прыязджаў "газон" з шэрай бочкай і адпампоўваў каналізацыю:

– Нам, дзецям, надзвычай цікава было назіраць за ўсёй гэтай працэдурай, калі доўгі здаровы шланг апускаўся ў каналізацыйны люк, – усміхаецца Юры Барысавіч.

**Мікола ГАЙДУК.**




Фота Аляксандра САЛАГУБА.

"Рэгіянальная газета" прапанавала чытачам знайсці сябе на здымку са старога альбома. Пакуль застаецца адно неразгаданае імя.




Выпускны здымак групы дзіцячага садка №5 Маладзечна.

КАЛЯНДАР

**7 СНЕЖНЯ**

**125 гадоў** з дня нараджэння (1891) Андрэя Цікоты (хутар Плавушка, цяпер Смаргонскі раён), рэлігійнага і грамадска-культурнага дзеяча, генерала ордэна марыянаў.

**130 гадоў** назад (1886) нарадзіўся Мікола Равенскі, кампазітар, фалькларыст, аўтар беларускага гімна "Магутны Божа".

**21 СНЕЖНЯ**

**220 гадоў** з дня нараджэння Тамаша Зана (1796 – 1855), паэта, збіральніка фальклору, арганізатара і заснавальніка першага ў Расійскай імперыі мінералагічнага музея, ураджэнца вёскі Мясата Маладзечанскага раёна.

**22 СНЕЖНЯ**

**95 гадоў** з дня нараджэння (1922) Алены Васілевіч, беларускай пісьменніцы.

**35 гадоў** назад (1981) памёр Міхась Забэйда-Суміцкі, спявак, педагог. Пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе (Чэхія).

**15 гадоў назад** (2001) памёр Уладзіслаў Чарняўскі, каталіцкі святар, перакладчык Бібліі і літургічных тэкстаў на беларускую мову. У 1944 годзе служыў у Крэве. Ад снежня 1953-га выконваў святарскія абавязкі ў мястэчку Вішнева на Валожыншчыне. У студзені 1968-га быў запрошаны ў Рым, дзе прысутнічаў на аўдыенцыі ў Папы Паўла 6.

**25 СНЕЖНЯ**

**125 гадоў** назад у мястэчку Вішнева Валожынскага раёна нарадзіла Уладзіслава Луцэвіч, беларуская літаратуразнаўца і культурная дзячка, жонка Янкі Купалы. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1959). Скончыла Віленскую гімназію (1906), педагагічныя курсы ў Варшаве (1908). Працавала выхавальніцай дзіцячага прытулку ў Вільні. Вяла прапаганду ў рабочых гуртках (у 1909 і 1911 прыцягвалася да суда). У 1914 арганізоўвала прытулак для дзяцей бежанцаў. Прапагандавала беларускую літаратуру, друкавала вершы ў "Нашай ніве". У 1916 годзе выйшла замуж за Янку Купалу. Ад 1919 у Мінску, працавала інспектарам дашкольных устаноў Наркамасветы БССР, выхавальніцай і педагогам-метадыстам дзіцячых устаноў, на радыё. Аўтар артыкулаў і ўспамінаў пра Янку Купалу, успамінаў пра Змітрака Бядулю, Цётку. У 1944 – 1960 гадах – дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы, складальнік зборнікаў і матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць Янкі Купалы. Памерла 25 лютага 1960 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Беларусь – гэта ў Афрыцы?

## З чым сутыкаюцца беларусы, калі жывуць за мяжой

**У каго з нас часам не з'яўляецца думка кінуць усё і паехаць жыць за мяжу – там і людзі дабрэйшыя, і трава зелянейшая.**

Ці так гэта насамрэч, "РГ" расказалі колішнія маладзечанцы, якія цяпер жывуць за мяжой.

### Яўген Каратай, сем гадоў жыве ў ЗША

У ЗША я з'ехаў, таму што выйграў Грын-кард. Не паспрабаваць пераехаць было б вялікім глупствам. Калі сышоў з трапа самалёта сем гадоў таму, то зразумеў, што ўсё навокал чужое.

Але я хутка прывык да мовы і людзей. Прыгадваючы ўрокі англійскай у школе, разумею, што школьная праграма вельмі далёкая ад рэальнага жыцця, мову давялося вучыць па-новаму.

Я жыву ў штаце Мінесота. Спачатку працаваў на будоўлі, цяпер займаюся праграмаваннем.

**Спачатку цяжка было асэнсаваць, што многія пытанні могуць вырашацца хутка і без стрэсу – ад арэнды кватэры да адкрыцця рахунка ў банку.**

Таксама вельмі нязвыклай была сістэма вымярэнняў. Тэмпература ў Фарынгейтах, аб'ёмы ў галонах, даўжыня ў цалях, футах, мілях і ярдах. Мне і цяпер наша метрычная сістэма падаецца больш зручнай і практычнай.

Наконт амерыканцаў існуе мноства стэрэатыпаў. Але гэта вельмі добрыя і адкрытыя людзі. У большасці сваёй яны ўсё жыццё пражылі ў дастатку, таму, магчыма, часам вельмі наіўна глядзяць на рэчы. Ніхто не імкнецца нікому нічога даказаць наконт свайго становішча – напрыклад, усе апранаюцца вельмі проста. Знешніх адрозненняў паміж мільянерам і простым рабочым не знойдзеш.

**Беларусы шмат чаму маглі б навучыцца ў амерыканцаў. Напрыклад, не глядзець на іншых, а займацца сваімі справамі.**

Беларусаў у сваю чаргу варта пахваліць за працавітасць – гэтым яны вылучаюцца ў ЗША сярод "рускамоўных". І яшчэ мы больш еўрапейскія, калі можна так сказаць.

Амерыканцы вельмі цікавяцца спортам, прычым мясцовым – НХЛ, НФЛ. З маіх знаёмых мала хто сочыць за алімпіядамі і чэмпіянатамі свету, а вось за мясцовымі лігамі – так.




Беларуская "Мачанка-паці" ў 2014 годзе.

І яшчэ амерыканцы ў адкрытую размаўляюць пра палітыку. Прычым таксама больш абмяркоўваюць мясцовую, а не міжнародную.

Ежа ў Штатах вельмі высокай якасці. Калі размаўляю з роднымі, мы часам параўноўваем цэны: яны тут амаль такія ж, як у Беларусі. Але салодкае, шакалад, арэхі – нашмат танней. Тут вельмі якаснае і таннае адзенне. Брэндавыя рэчы можна купіць са зніжкай 80-90%.

Калі нехта хоча пераехаць у Штаты, магу сказаць, што першы час будзе нязвыкла і шмат трэба будзе працаваць. Але праца тут цэніцца.

Недарма гавораць, што ЗША – краіна магчымасцяў. Галоўнае рабіць тое, што падабаецца, і рабіць гэта крыху лепей, чым іншыя.

І калі ўжо ёсць такая магчымасць, хацеў бы перадаць прывітанні праз газету сваім маме і тату, а таксама ўсім родным!

### Крысціна Шыянок, сем гадоў жыве ў Чэхіі

Калі вывучала чэшскую і беларускую філалогію ў БДУ, нас адпраўлялі на стажыроўкі ў Чэхію. Ужо тады я жыла на дзве краіны: семестр у Мінску, семестр у Празе. З кожнай наступнай паездкай кантраст паміж "свабоднай" Еўропай і "несвабоднай" Беларуссю ўспрымаўся мацней. Да таго ж мяне вабіла праца вуснага перакладчыка, але ні паслядоўнага, ні сінхроннага перакладу ў нас на філфаку не было. Таму адразу пасля абароны дыплома я паехала ў Прагу паступаць ў Карлаў універсітэт.

Спачатку выкладала чэшскую мову рускамоўным студэнтам. Прабіцца ў сферы перакладу было не проста: вельмі моцная канкурэнцыя. Але я заняла сваю нішу на рынку. Займаюся судовым, сацыяльным і канферэнц-перакладам. Дыяпазон працы вельмі шырокі: ад бізнэс-перамоў да Карлаварскага кінафестывалю і допытаў у турмах.

Стаўленне чэхаў да замежнікаў не заўсёды станоўчае. Горш за ўсё, калі з такім сутыкаешся ва ўстановах.

**Мяне прымаюць за чэшку, але даводзілася бачыць, як чыноўнікі кпілі з іншых замежнікаў.**

Я пагадзілася быць лектаркай у праекце па паляпшэнні інтэркультурных кампетэнцый дзяржаўных службоўцаў. Спадзяюся, у нас атрымаецца нешта змяніць.

Пасля пераезду было складана перастроіцца на новы рытм. Чэхі рана ўстаюць, рана пачынаюць і заканчваюць




Фота забяспечана Яўгенам КАРАТАЕМ.

Чыкага, шкляная аглядная пляцоўка на вышыні 412 метраў.




Фота забяспечана Кацярынай СТАНКЕВІЧ.

Кацярына на працы ў Бергене.

працу. Калі ты нешта заказваеш праз інтэрнэт, дастаўка можа прыехаць а сёмай раніцы і вельмі здзівіцца, што ты яшчэ ў піжаме. У суботу і нядзелю ніхто не працуе, многія на выхадныя выключаюць службовыя мабільныя тэлефоны альбо пакідаюць іх на рабоце. Дзяржаўныя святы ўвогуле татальна прыпыняюць усе працоўныя працэсы.

Беларусы, калі параўноўваць з чэхамі, занадта цярплівыя, яны хутчэй змірацца з сітуацыяй, чым паспрабуюць яе вырашыць. Чэхі будуць пісаць скаргі і ўсімі спосабамі дамагацца справядлівасці. Кажуць, што чэхі даволі прагматычныя і нават дробязныя.

**Мне сапраўды даводзілася чуць рэплікі кшталту “Дарым дзіцяці на дзень народзінаў праязны”.**

Але ў той жа час я ў захапленні ад таго, як на выхадныя ўсе сем’ямі выязджаюць за горад, а студэнты абавязкова едуць дадому і вяртаюцца з гісторыямі пра рыбалку з дзядулем ці гатаванне кнэдлікаў з бабуляй.

Калі жыла ў Беларусі, мне не падабалася, што людзі слепа прытрымліваюцца прынятай у савецкія часы мадэлі жыцця. Такія рашэнні, як паступленне ва ўніверсітэт ці шлюб часта прымаюцца таму, што “трэба”, а не таму, што чалавек да іх псіхалагічна гатовы. Тут інакш. Пасля школы некаторыя робяць гадавы перапынак, каб вызначыцца, кім яны хочуць стаць, ва ўніверсітэт ідуць далёка не ўсе. Раней за 30 звычайна не жэняцца і не выходзяць замуж.

Упершыню я адчула, што я “ў сябе”, калі перастала ў галаве пераводзіць цэны ў беларускія рублі. Або калі па вяртанні ў Прагу з нейкай паездкі аўтаматычна сказала “нарэшце дома”. Але цалкам адчуць сябе “не госцем” я змагла толькі пасля атрымання дазволу на сталае жыхарства.

Сувязь з радзімай падтрымліваю. Сачу за навінамі, удзельнічаю ў беларускіх праектах. З сяброўкамі вядзём ў “Фэйсбуку” суполку “Беларусы Чэхіі”. Таксама з’яўляюся афіцыйным прадстаўніком беларускай меншасці.

Калі зазірнуць у будучыню, то бачу сябе прысяжнай перакладчыцай. Якраз падаю дакументы на атрыманне адпаведнай пячаткі. І не выключаю, што калі-небудзь вярнуся ў Беларусь.

### Кацярына Станкевіч, за мяжой шэсць гадоў, апошні год жыве ў Нарвегіі

Мой досвед жыцця за мяжой пачаўся ў 2011 годзе. Тады я паехала вучыцца ў Літву. Там пражыла чатыры гады і атрымала дыплом бакалаўра міжнароднага права.

Пасля была Варшава, куды я паступіла ў магістратуру і адвучылася год. Але мне складана сядзець на месцы, і хутка я пераехала ў Нарвегію.

Дасылаю гарачыя прывітанні з партовага горада Берген! Тут я вучуся і працую ў міжнароднай кампаніі.

Магчыма, такая мая натура, але з рэальнымі цяжкасцямі я не сутыкалася ў ніводнай краіне. Я лёгка адаптуюся да любых умоў, і мне ў кайф такія выклікі.

Мне даводзілася вучыць шмат моў, нарвежская – ужо сёмая. Але мая паўсядзённая мова – англійская.

Гэта я зразумела, калі пачала бачыць сны на англійскай.

Пераезды не толькі стымулююць самаразвіццё, але і дадаюць сіл і ўпэўненасці ў сабе.

Таму пакуль вы жывыя і здаровыя – падарожнічайце! Не важна куды і з кім, самалётам, пешкі ці на аленях. Проста рухайцеся, глядзіце, назірайце. Суседні горад ці канец свету – не важна. Важна, што, вярнуўшыся назад, вы ніколі не будзеце ранейшым.

Што тычыцца Нарвегіі, тут ёсць адзін вялізазны, тлусты плюс: прырода! Такога я не бачыла нідзе! Калі я штораніцы бачу гэтыя горы, то гатовая дараваць Нарвегіі ўсё: і вечны дождж, і змены надвор’я па сто разоў на дзень, і касмічныя цэны – келіх віна за 10 еўра.

Да таго ж тут можна атрымаць бясплатна ўсё, ад хамяка да дачы. Я не жартую. Людзі тут настолькі багатыя, што праз спецыяльны сайт аддаюць усё, што ім больш не трэба. Пасля пераезду я вельмі актыўна гэтым карысталася. Першым, што атрымала, быў ложак для гасцей.

Гледзячы на беларусаў збоку, я параіла б ім больш займацца самаразвіццём. У Нарвегіі нават дворнікі і кіроўцы гавораць на цудоўнай англійскай. А пенсіянеры ходзяць у горы, на фітнес, у басейн.

**І яшчэ беларусам варта пазбавіцца такой рысы – пастаянна некаму нешта даказваць.**

Галалёдзіца – але на шпільках у 20 см, здаваць аналізы ў паліклініку – з нарошчанымі вейкамі. Прыйсці ў бар і выкласці на стойку ўсе свае айфоны. Ці не лепей “забіць” на гэта ўсё і атрымліваць задавальненне ад жыцця?

Часам крыўдна, што большасць людзей увогуле не падазрае аб існаванні такой краіны, як Беларусь. Якія толькі варыянты я не чула: частка Малдовы ці Расіі ці што гэта ўвогуле ў Афрыцы. І трэба падзякаваць Дар’і Домрачавай, якая выйшла замуж за мясцовую зорку, біятланіста Б’ёрндалена. Дзякуючы гэтаму многія нарвежцы адкрылі для сябе Беларусь.

Я не будую доўгатэрміновых планаў, бо я перакананы фаталіст. Ведаю адно: летам у мяне абарона дыплома ў Варшаве. А з бліжэйшых планаў – пабываць на радзіме, завесці сабаку і паесці маміных дранікаў.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

# Зорка з трэнажоркі



## На вагі станавіцца страшна

**Чытачам можа падасца дзіўным, што спецыяльную рубрыку Наталлі Тур "Зорка з трэнажоркі", у якой яна расказвала чытачам, як змагаецца з лішнімі кілаграмамі, пачалі весці яе калегі.**

Справа ў тым, што кантраляваць "зорку", як яна пайшла ў адпачынак на дзесяць дзён, стала проста немагчыма. Паездка ў Львоў падкасіла яе намаганні схуднець.

Затое Наталля рэгулярна дасылала ў рэдакцыю фотадзымкі таго, чым частавалася. Аблізваўся ўвесь калектыў пры выглядзе галушак, пампушак і прыгожа ўпакаваных цукерак.

Не скажам, што сумленне зусім не мучыла зорную дзяўчыну, з'еўшы ўсё тое, што дасылала, мы чыталі наракані: "Што ж я нарабіла, на вагі станавіцца страшна, я паправілася на 20 кілаграмаў".

Пасля такой тырады меркавалі, што дзесяць кілаграмаў, знішчаныя потам і кроўю, вернуцца як міленькія, але, ацаніўшы на вока вагу Наталлі, кілаграмы не вярнуліся, хіба што некалькі.

А "зорка" ўжо з новымі сіламі пайшла ў трэнажорку. Вынікі ўзважванняў, а таксама справаздачу Наталлі чакайце ў наступным нумары.

**А тым часам фітнес-клуб "Тытан" запрашае ахвотных 16 снежня а шостай гадзіне вечара на фітнес-вечарынку.**

Вас чакаюць падарункі, конкурсы і, самае галоўнае, выдатны настрой.

**Аддзел інфармацыі.**



У Львове Наташа паспявала не толькі смачна есці, але і набыла ўкраінскую вышыванку і сфатаграфавалася ў ёй. Фота Наталлі Тур.



МІНІ-ФУТБОЛ

# "Мядзведзі" лідзіруюць у групе

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

**Гульні трэцяга тура чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе каманды рэгіёна правялі 3 снежня.**

"Ашмяны" дома саступілі "Мядзведзям" са Смаргоні 2:4. Звышвыніковы і напружаны матч выдалі ў Ваўкавыску "Беллакт" і "Меліяратар" з Астраўца. Вынік – нічыя 10:10.

У чацвертым туры "Мядзведзі" 10 снежня дома прымалі "Легенду-Віцязь" з Іўя.

– Добрая гульня атрымалася, шмат небяспечных момантаў было і ля варот гасцей, і ў нашых, – расказвае гулец "Мядзведзяў" **Віталь Будай**. – На гол адказвалі голам. За хвіліны тры да канца матча сапернікі зарабілі шосты фол, які з 10-метровага рэалізаваў наш гулец. Лік стаў 4:3 на нашу карысць. Але за секундаў 20 да канца "Легенда" змагла адыграцца. Баявая нічыя 4:4. А ўвогуле, мы ўжо ў другой дамашняй гульні ў канцы ўпускаем перамогу.

За "Мядзведзяў" згуляў і забіў гол ураджэнец Смаргоншчыны, гулец ФК "Мінск" **Леанід Ковель**.

Гульня астравецкага "Меліяратара" з "Ашмянамі" адбылася ў Гервятах. Першы тайм завяршыўся з лікам 4:1. У другім каманды забілі па чатыры галы. Выніковы лік 8:5 на карысць "Меліяратара". Пяць галоў за "Меліяратар" забіў **Аляксандр Арлоўскі**, які і стаў лепшым у камандзе.

"Мядзведзі" папярэднейшаму ўзначальваюць турнірную табліцу ў групе "Поўнач". У каманды восем ачкоў. "Меліяратар" з сямю ачкамі на трэцім месцы, "Ашмяны" – на апошнім, шостым.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота vk.com/fcsmorgon.

Леанід Ковель.

ПАЎЭРЛІФТЫНГ

## У Ашмянах сабраліся паўэрліфтары

АШМЯНЫ

**У фізкультурна-аздараўленчым комплексе ў Ашмянах 10 і 11 снежня прайшоў адкрыты чэмпіянат Гродзенскай вобласці па класічным паўэрліфтынгу ў трохбор'і і жыме штангі.**

Наладзілі прамую трансляцыю спаборніцтваў на YouTube.

Усяго ў чэмпіянаце паўдзельнічалі 26 камандаў з усіх абласцей. Ашмянцы занялі агульнакамандае першае месца, паведаміў юны ашмянскі паўэрліфтар **Мацвей Станкевіч**. Усяго ашмянскіх камандаў было чатыры. Вось іх лепшыя вынікі.

У камандным першынстве сярод жанчын у трохбор'і другое месца ў САК "Аякс" з Ашмянаў, трэцяе – у каманды ашмянскай СШ №1.

У першынстве сярод жанчын у жыме штангі лежачы перамагла САК "Аякс", трэцяе месца за СШ №1 Ашмянаў.

Зноў жа першае месца ў камандным першынстве сярод мужчын у трохбор'і ў "Аякса". Трэцяй была каманда "Аякс 2" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Ашмянаў. Аналагічныя вынікі ашмянцаў у першынстве сярод мужчын у жыме штангі лежачы.

– Трэнеры, спартсмены, суддзі – усе адзначылі самы высокі ўзровень правядзення спаборніцтваў. Увогуле ў нас было больш крута, чым на чэмпіянаце Еўропы ў Іспаніі, дзе сёлета даваліся пабываць, – лічыць Мацвей Станкевіч.

**Аддзел інфармацыі.**

ФУТБОЛ

## З "Іслачы" ўсё ж знімуць сем ачкоў

МАЛАДЗЕЧНА

Апеляцыйны камітэт АБФФ пакінуў без змяненняў пакаранне "Іслачы".

Нагадаем, 25 лістапада на пасяджэнні дысцыплінарнага камітэта АБФФ было вырашана зняць з "Іслачы" на старце наступнага сезона сем ачкоў у сувязі з удзелам гульцоў клуба ў дагаворным матчы.

Апеляцыйны камітэт 8 снежня разгледзеў заяву клуба і пастанавіў пакінуць пакаранне без змяненняў, паведамляе fcisloch.by

## У турніры прайшлі матчы на выбыванне

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

У міжрэгіянальным турніры па міні-футболе пачаліся матчы на выбыванне.

Чвэрцьфіналы адбыліся ў Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 10 снежня. "Паставы" былі мацнейшыя за "Зубраня". Асноўны час завяршыўся ўнічыю 2:2, а ў серыі пенальці пастаўскія футбалісты былі лепшыя.

"ФАЦ" перамог "Шылавічы" з Вілейскага раёна 3:2, "Спадарожнік" выйграў у "Мядзела" 5:2.

Да тройкі пераможцаў далучыцца "Фламетр" з Вілейкі, які выйграў групавы раўнд. У паўфіналах "Фламетр" згуляе з камандай "ФАЦ", "Спадарожнік" – з "Паставамі".

**Аддзел інфармацыі.**

## Мечыслаў Гой: "Не веру, што Рындзюк пайшоў на гэта сам"

СМАРГОНЬ

Мэр Гродна, старшыня назіральнага савета "Нёмана" і былы старшыня Смаргонскага райвыканкама **Мечыслаў Гой** падзяліўся меркаваннем пра скандал з дагаворнымі матчамі ў Беларусі.

– З грашыма ў нашым футболе хапала непрыемнага. Што думаеце пра гісторыю з Рындзюком, трэнерам не чужой вам "Смаргоні"?

– Вельмі добра ведаю яго характар па працы ў "Смаргоні" і не веру, што Мікалай пайшоў на гэта сам. Канкрэтна па Рындзюку – ну, не веру! Па іншых людзях, магчыма, ёсць пытанні. Зразумела, што следства расставіць усе кропкі над "і". Але ўпэўнены, што міма галоўных трэнераў такая інфармацыя прайсці не магла. А ўвогуле, сорамна, што ў беларускім футболе здарылася столькі гучных скандалаў – і судзейскіх, і з дамоўнымі матчамі, – сказаў Мечыслаў Гой.

**Паводле pressball.by.**




## Рыхтуемся да навагодніх святаў. Салата "Капрыз"


Фота Марыі БЕРАСНЕВАЙ.

Гэту салату можна прыгатаваць да святочнага стала. Яна прыгожа выглядае і смачная. Праўда, каларыйная.

Вам спатрэбіцца: *2 вараныя бульбіны, 1 кумпячок (можна ўзяць ялавічыну ці язык), 1 морквіна, 2 цыбуліны, грыбы (шампіньёны ці лясныя, я брала лясныя), 4 марынаваныя агурочкі, 1 вараны жаўток.*

Кумпячок адварыце ў падсоленай вадзе са спецыямі, цыбулю падсмажце з морквай, грыбы – з цыбуляй.

Усе інгрэдыенты папярэдне змяшайце з маянэзам і выкладвайце слаямі.

1-ы слой – бульба, надзёртая на буйной тарцы

2-і слой – курыца, нарэзаная кубікамі

3-і слой – агуркі, нарэзаныя саломкай

4-ы слой – морква, смажаная з цыбуляй

5-ы слой – грыбы, смажаныя з цыбуляй

6-ы слой – жаўток, пацёрты на дробную тарку, для ўпрыгожвання.

Кожны слой рабіце трохі меншым дыяметрам, так салата прыгожа глядзіцца. Каля першая слоя на талерцы можна пакласці пятрушку, зялёную цыбульку ці агуркі, нарэзаныя саломкай. Маянэзам тоненька паліце так, быццам дожджык вісіць на ёлцы.

Смачна есці.

**Проста МАРЫЯ.**



## Адказы на крыжаванку з №50.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Трыснёг. 4. Хмарачос. 5. Гандалупа. 7. Човен. 8. Прыз. 11. Папера. 12. Сцяжынка. 14. Вулкан. 16. Цыбуля. 17. Малако. 18. Жароўня. 19. Кентаўр. 20. Папірус. 21. Вадарод. 24. Талент. 25. Агінскі. 29. Бульба.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Пчаляр. 2. Шымон. 6. Ядро. 9. Гандвана. 10. Дзверы. 13. Яблык. 15. Дажынкі. 16. Цукерка. 22. Астравец. 23. Акорд. 26. Легенда. 27. Табурэт. 28. Крагі. 30. Шалфей.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 9 | | 8 | 4 | 7 | | 5 |
| | | | | | | 6 | | |
| 5 | | | 2 | | 7 | | | |
| | | 6 | | | | | 7 | |
| | 1 | 5 | | | | 3 | 2 | |
| | 8 | | | | | 4 | | |
| | | | 7 | | 3 | | | 9 |
| | | 2 | | | | | | |
| 3 | | 1 | 6 | 5 | | 2 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Па загадзе Ягайлы там задушылі Кейстута, а Вітаўту дапамагла ўцячы жонка. У 20 годзе камяні з замка гэтага населенага пункта выкарыстоўвалі для брукавання Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне.
3. І манах, і род малпаў.
4. Гідраўлічная машына, без якой не абыходзяцца раварысты.
9. Віленскія мучанікі Круглец, Кумец і Няжыла перайшлі з гэтай рэлігіі ў хрысціянства.
10. Самае салодкае месца ў доме.
11. Кніжны знак, які вывучае краязнаўца з Маладзечна Міхась Казлоўскі.
12. Кароль франкаў, у картах прататып караля чэрваў.
15. У Старажытным Егіпце насіць яе мог толькі фараон, але ён карыстаўся штучнай. У Грэцыі яе форма залежала ад прыналежнасці да пэўнай філасофскай школы. Яе не меў Аляксандр Македонскі. А Пётр I увёў на яе падатак.
16. Прафесія чалавека, які стаіць паміж пакупніком і таварам.
18. Уводная частка трэніроўкі.
21. Паводле гэтага прынцыпу, мы бачым Сусвет такім, таму што толькі ў такім Сусвеце мог узнікнуць назіральнік, чалавек. У моцным варыянце – Сусвет мусіць мець уласцівасці, якія дазволяць з'явіцца разумнаму жыццю.
25. Бацька Саламона, прататып піковага караля ў картах.
26. Без яе не атрымаецца выпечка.
27. «Полацкі …» – зборнік барочнай музыкі, нотны рукапіс, які знайшоў прафесар Адам Мальдзіс, што нарадзіўся на Астравеччыне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Традыцыйны беларускі напой з мёдам.
5. Месца нараджэнння класіка, дзе ладзяць свята "Гуканне вясны".
6. У Вілейцы ідзе конкурс на праект скульптуры ў яе гонар.
7. У нашым рэгіёне яе планавалі спачатку праз Ашмяны і Гарадок, але ў апошні момант змянілі на Смаргонь – Маладзечна.
8. Пераварот праз галаву з апорай на рукі.
11. Сучасныя навукоўцы лічаць, што яны сталі люлькай рымскай цывілізацыі, і былі такія багатыя, што нават іх рабы мелі дамы і прыгожае адзенне.
13. Галаўны ўбор, які хавае жаночы твар.
14. Трэнер маладзечанскіх футбалістаў.
16. Яе пярэдняя частка – твар.
17. Прозвішча краязнаўцы з Вілейкі, якога чытачы прызналі "Асобай года-2015" па версіі "Рэгіянальнай газеты".
19. Населены пункт і аднайменная рэчка.
20. Спартыўны інвентар самага знакамітага дзядулі Маладзечна – Вікенція Налівайкі.
22. "… Дэві Джонса" – іншаказальная назва магілы маракоў.
23. Якую форму прапануюць прыняць чалавеку ў фразеалагізме, каб ён завяршаў працу.
24. Пішуцца аднолькава, але азначаюць рознае.
25. Галоўная стратэгічная перавага гераіні "Гульня тронаў" Дэйенэрыс.
28. Прыстасаванне для зашпільвання.



## ГАРАСКОП 16-22 СНЕЖНЯ

**Авен.** Перавярніце сваё жыццё, хоць бы на дзень ці на імгненне, дазвольце сабе дзейнічаць не так, як звычайна, і перад вамі адкрыецца новы шлях, новы сэнс жыцця.

**Цялец.** Магчымасцяў рухацца наперад, развівацца ў вас з'явіцца нашмат больш, чым было раней.

**Блізняты.** Пачуцці і розум не заўсёды добра сумяшчаюцца. Таму вам прыйдзецца выбіраць: даверыцца свайму розуму і дзейнічаць строга па разліку і згодна з планам ці аддацца на волю пачуццяў.

**Рак.** Падзеі не прадракаюць вам прамых заробкаў ці поспехаў у каханні, але павышаная энергетыка, уменне прасоўвацца наперад і дасягаць пастаўленых мэтаў можа прывесці і да таго, і да другога. Прыслухайцеся да сябе і не бойцеся эксперыментаваць.

**Леў.** Калі вы адчуваеце, што зусім не ведаеце, як менавіта трэба дзейнічаць далей – вазьміце перапынак, пабудзьце сам-насам, і вы знойдзеце іншы шлях.

**Дзева.** Калі ў галаве круціцца шмат розных думак, гэта не значыць, што сярод іх ёсць хоць адна карысная. Будзьце асцярожныя ў выбары партнёраў. Не ўсе з іх ацэняць вашы думкі і ідэі. А ад некаторых шкоды будзе больш, чым карысці. Вучыцеся стрымліваць сябе.

**Шалі.** Гэтыя дні будуць паспяховымі ва ўсіх пачынаннях. А частку работы вы ўвогуле зробіце чужымі рукамі.

**Скарпіён.** Даецца магчымасць займець мір у душы, гэта значыць, прывесці свой унутраны свет да такога становішча, калі ніякія знешнія падзеі не змогуць вас расстроіць і выбіць з каляіны.

**Стралец.** На гэтых днях у вас стануць зараджацца новыя ідэі і адкрывацца цікавыя перспектывы.

**Казярог.** Калі дзейнічаць рашуча, думаць толькі пра сябе і свае жаданні, то можна з поспехам дасягнуць таго, чаго жадаеце. Але не ідзіце па галовах, бо шчасце будзе нядоўгім.

**Вадалей.** Ва ўсіх справах, пачатых у гэты перыяд, вельмі спрыяльная перспектыва. Смела бярыцеся за любое пачынанне – вам цяпер усё па сілах.

**Рыбы.** Вы прыйдзеце да гармоніі з самім сабой. Будуць адбывацца падзеі, якія дапоўняць радасную карціну дня. Толькі не пераядайце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
# Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што для вас значыць, жыць у сваё задавальненне?



**Кацярына Сівакова, навучэнка:**
– Жыць у сваё задавальненне – гэта значыць, жыць так, як табе падабаецца, браць ад жыцця ўсё, што можна.



**Валянціна Храмцова, пенсіянерка:**
– Прачнуцца ранкам, паглядзець на неба, убачыць сонца. Сказаць, якая прыгажосць! Я кожны дзень жыву ў сваё задавальненне: падарожнічаю, хаджу ў басейн. Нядаўна запісалася ў танцавальны калектыў у Палац культуры. Цяпер яшчэ хаджу і на рэпетыцыі.



**Таццяна Атрошанка, паэтка:**
– Жыць у сваё задавальненне для мяне – гэта займацца любімай справай і быць запатрабаванай. А яшчэ сустракацца з цікавымі людзьмі.



**Вадзім Бакачэнка, студэнт:**
– Жыццё ў сваё задавальненне – гэта жыццё без праблем. Але ці магчымае такое жыццё? Вось пытанне.



**Аляксандр Хазянін, пенсіянер, пісьменнік:**
– Патрымаць нарэшце ў руках уласную кніжку, якая ляжыць у выдавецтве "Звязда". Працаваць на радасць сабе, людзям і Беларусі. Радавацца, гледзячы на ўнукаў, якіх у мяне трое.



**Максім Фёдараў, электрык:**
– Жыць толькі ў сваё задавальненне, напэўна, не зусім правільна. Заўжды побач ёсць людзі, для якіх хочацца жыць і прыносіць ім гэта задавальненне: бацькі, каханая, дзеці.



**Вольга Пракапенка, навучэнка:**
– Жыць у сваё задавальненне – гэта тое, што я раблю цяпер: вучуся, сустракаюся з сябрамі, заўжды магу звярнуцца па дапамогу да бацькоў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

● НАДВОР'Е

## 17 снежня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -9 / -1 | | -1 / 0 | | -2 / -1 | | -1 / 0 | |
| | 732 | → 5 | 751 | ↘ 4 | 744 | ← 3 | 740 | ↙ 4 |
| Вільня | -4 / -1 | | -1 / -1 | | -3 / -1 | | 0 / 0 | |
| | 762 | → 4 | 762 | → 3 | 753 | → 4 | 751 | ↓ 3 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.29
Захад 16.49
Даўжыня дня 7.20

Усход 21.19
Захад 11.48
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -23 °С у 1997 годзе
Максімальная тэмпература +5,6 °С у 1972 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,1 мм у 2014 годзе
Паводле meteoinfo.by

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Бацькі Сярожы стараліся як мага даўжэй падтрымліваць у сыне веру ў цуды, таму не працуючы, у свае 32 гады, ён меў ужо і кватэру, і грошы на начныя клубы і дзяўчат, і машыну ад Дзеда Мароза.

***

– Андрэй, я жанюся?
– З кім?
– З тым, з кім сябраваў усе гэтыя гады?
– Са мной хіба?

***

У аўтобусе:
– Ваш білет?
– А ваш?
– Я кантралёр.
– А я электрык. Дык што мне цяпер, за святло не плаціць?

***

Учора быў у сябра дзень нараджэння, запускалі паветранага змея. Аж да бойкі сварыліся, усім хацелася патрымацца за нітку і пабегаць з ім. А я ж у той кампаніі быў самы малодшы, мне 34 гадкі.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Культурная сталіца: чым адзначыўся гэты год для маладзечанцаў, ці адчулі яны на сабе, што нешта змянілася за гэты час. Падводзім вынікі са спецыялістам, што паспелі зрабіць. Меркаванне маладзечанца, чаго не зрабілі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№51 (1129) 16.12.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1222. Падпісана ў друк у 9.00 15.12.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.